18 мая 2018 | № 18 (581)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214005 18018

**Украіна: комік або спявак?**
Стар. 9



# Доўгая памяць

## Ульяна Захаранка не дачакалася. Чаго дачакаемся мы?



Сяргей ПУЛЬША

На 95-м годзе жыцця памерла Ульяна Захаранка, маці зніклага ў 1999-м экс-міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі. Маці так і не дачакалася ні сына, ні праўды пра сына.

Былы міністр унутраных спраў Беларусі, адзін з лідараў апазіцыі, Юры Захаранка быў скрадзены ў Мінску невядомымі 7 мая 1999 года. Што далей стала з Юрыем Захаранкам, грамадскасці невядома.

Усе гэтыя 19 гадоў Ульяна Захаранка ўпарта чакала сына. Можа б, яна і змірылася з тым, што ніколі яго не ўбачыць, але гэтага ёй не давала зрабіць «дзяржава для народа». Маці падавала ў суд заяву аб прызнанні сына памерлым, бо ён знік пры абставінах, якія даюць падставы меркаваць пра яго смерць. Яе заявы не разглядаліся: суд спыніў вытворчасць па яе заяве да заканчэння расследавання па крымінальнай справе аб знікненні экс-міністра ўнутраных спраў.

І кожны год ёй прыходзілі паперкі: следства працягнутае, следства працягнутае… Так яна і не дачакалася сына…

На мінулым тыдні, 17 мая, споўнілася б 66 гадоў яшчэ аднаму знікламу ў Беларусі — бізнесоўцу Анатолю Красоўскаму. Ён знік разам віцэ-спікерам Вярхоўнага Савета, экс-старшынёй беларускага ЦВК Віктарам Ганчаром 16 верасня 1999 года.

Таксама мы нічога не ведаем пра лёс нашага калегі Дзмітрыя Завадскага. З аднаго боку, нам сцвярджаюць, што наконт Завадскага ўсё вядома: па яго справе былі асуджаныя Валер Ігнатовіч і Ігар Малік. Але, па-першае, віны сваёй у судзе яны не прызналі, а па-другое, судзілі іх толькі за выкраданне журналіста — забойства ў судзе даказана не было.

Фармальна, гэтыя знікненні дагэтуль не раскрытыя. Але толькі фармальна. Насамрэч, усім даўно ўжо вядомыя і выканаўцы злачынства, і тыя, хто да яго датычныя. Здагадваюцца ўсе і пра замоўцу. Можна нават сказаць, што знікненні Захаранкі, Ганчара і Красоўскага былі раскрытыя па «гарачых слядах». Я памятаю, як яшчэ на першых акцыях з партрэтамі зніклых ля будынку КДБ, годзе ў 2000-м, мінак, які спяшаўся ў службовы ўваход, казаў: «Чаго вы тут стаіце, ідзіце да вайсковай часткі 3214».

Потым былі рапарты Лапаціка і звесткі Алкаева пра «расстрэльны пісталет», дакументы, якія пацвярджалі, калі і каму ён выдаваўся, і гэтак далей. Кажуць, што на Захадзе Алкаеву прапанавалі нават набыць відэазапіс расстрэлу Захаранкі, Ганчара і Красоўскага. А потым следчыя Дзмітрый Петрушкевіч і Алег Случак, якія працавалі па «справе Завадскага», дадалі яшчэ шмат фактаў па створаных у Беларусі «эскадронах смерці».

Так што хапае ўсяго — і доказаў, і сведкаў. Па словах праваабаронцы і вядомага юрыста Гары Паганяйлы, засталося толькі сабраць усе гэтыя доказы ў стос (не выключаю, што і гэта ўжо зроблена), аформіць працэсуальна і накіраваць справу ў суд. Папярэдне, канешне, змясціўшы пад арышт падазраваных.

І нездарма экс-міністры ўнутраных спраў Уладзімір Навумаў і Юрый Сівакоў, былы камандзір міліцэйскага спецпадраздзялення Дзмітрый Паўлічэнка і былы кіраўнік Рады бяспекі Віктар Шэйман дагэтуль застаюцца невыязнымі ў Еўропу.

Але, зразумела, што ў сучасных умовах гучныя справы да суда не дойдуць. І гэтыя людзі, калі трапяць на лаву падсудных, маўчаць не будуць. Працэсуальнае завяршэнне «справаў зніклых» магчымае толькі пасля змены ўлады ў Беларусі.



Фота www.novayagazeta.ru

> **Насамрэч, усім даўно ўжо вядомыя і выканаўцы злачынства, і тыя, хто да яго датычныя. Здагадваюцца і пра замоўцу**

З аднаго боку, нехта скажа, што, маўляў, ужо мінула 15 гадоў з часу знікненняў, выйшаў тэрмін даўніны, каб прыцягваць вінаватых да адказнасці. З іншага боку, ёсць пункт гледжання, напрыклад, прадстаўніка сям'і Захаранкі Алега Волчака, які сцвярджае, што гэтыя злачынствы — злачынствы супраць чалавецтва, якія не маюць тэрміну даўніны.

Зараз цяжка не пагадзіцца з Волчакам. Хтосьці павінен адказаць за 19 гадоў пакутаў Ульяны Рыгораўны Захаранкі.

Апроч таго, ніхто не адмяняў міжнародныя інстанцыі. Ёсць прыклады Нюрнбергу і Гаагі. І справа тут нават не ў пакаранні вінаватых у знікненнях. Справа — у справядлівасці. У тым, каб дакладна даведацца, што ўсё ж здарылася са зніклымі. Па чыім загадзе. Што і як рабілі і зрабілі выканаўцы. І — урэшце, дзе пахаваныя зніклыя, дзе шукаць іх парэшткі. Збольшага, мы ведаем адказы і на гэта, але «ведаць» і «шукаць» — рэчы вельмі розныя.

Так ці інакш, рана ці позна, адказы на ўсе нашы пытанні будуць дадзеныя — у гэтым я ўпэўнены. Нават у той час, калі датычныя да гэтых злачынстваў будуць ужо спачываць у магілах. Але лепш рана, чым позна. Хаця б таму, што, калі раней, то за свае грахі адкажуць тыя, каму гэта належыць. Інакш віна будзе перакладзеная на іх дзяцей і ўнукаў.

Гэта магчыма, і гэта адбудзецца — толькі пры адной умове. Калі беларускае грамадства само не забудзецца пра зніклых. Калі мы па-ранейшаму будзем вяртацца да гэтай тэмы, і кожны год адлічваць чарговую гадавіну гучных знікненняў палітыкаў, бізнесоўца і журналіста.

Але наўрад ці мы з вамі пра гэта забудземся. Тыя зніклыя былі асобамі, пра якіх варта памятаць.

# Наркотыкі: Грузія і Беларусь

Марына СВЯТЛОВА, «САЛІДАРНАСЦЬ»

**Пакуль у Беларусі «Маці 328» з дапамогай галадоўкі спрабавалі дагрукацца да ўладаў, у Грузіі прайшлі шматтысячныя акцыі пратэсту з патрабаваннем лібералізацыі наркапалітыкі і супраць бязмежжа паліцыі. Як пратэставалі ў Грузіі і Беларусі, чаго ўдалося дамагчыся і ў чым адрозненне заканадаўства пра наркотыкі?**

### Як усё пачыналася

У ноч на 12 мая грузінская паліцыя правяла антынаркатычную аперацыю ў начных клубах Тбілісі, у выніку якой, паводле афіцыйных дадзеных, былі затрыманыя 8 меркаваных наркагандляроў. У ходзе рэйду паліцэйскія ўжылі сілу да наведвальнікаў. У выніку ў горадзе пачалася стыхійная акцыя пратэсту.

У нядзелю мітынг аднавіўся. Тысячы людзей выйшлі на вуліцы. Моладзь спрабавала прарвацца да будынка парламента. Паміж пратэстоўцамі і сілавікамі адбыліся сутыкненні, у выніку якіх затрыманы больш за дзясятак чалавек. Мітынгі прайшлі і ў іншых гарадах Грузіі.

У Беларусі 27 красавіка ў Калінкавічах і Пухавіцкім раёне дзесяць родных асуджаных па артыкуле 328 КК РБ (Незаконны абарот наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх прэкурсораў і аналагаў) абвясцілі галадоўку. Жанчыны доўгі час безвынікова спрабавалі дастукацца да ўладаў, аднак так і не былі пачутыя. Самай маладой удзельніцы галадоўкі — 22 гады, гэта жонка асуджанага. Самай сталай — 72, у месцах пазбаўлення волі знаходзіцца яе ўнук.

### Патрабаванні

Мітынгоўцы ў Тбілісі патрабуюць лібералізацыі наркапалітыкі і адказу на пытанне, чаму паліцыя ўжыла жорсткія меры падчас правядзення спецаперацый у клубах. Гучалі і палітычныя заклікі: адстаўка ўрада, прэм'ера і міністра ўнутраных спраў.

Галадаючыя ў Беларусі маці вылучылі тры патрабаванні: сустрэцца з кіраўніком дзяржавы, стварыць камісію, якая б занялася пераглядам спраў па артыкуле 328, змякчыць артыкул 328 КК.

### Заканадаўства

У Грузіі незаконны выраб, вытворчасць, набыццё, захоўванне, перавозка або перасылка наркатычных сродкаў, іх аналагаў або прэкурсораў прадугледжваюць пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да 6 гадоў. Незаконны збыт караецца турмой на тэрмін ад 6 да 11 гадоў (пры абцяжарваючых абставінах — ад 8 да 20 гадоў). Абаронцам правоў спажыўцоў наркотыкаў праз Канстытуцыйны суд удалося дамагчыся змякчэння заканадаўства ў дачыненні да тых, хто ўжывае марыхуану. Захоўванне яе ў невялікіх колькасцях не караецца зняволеннем.

Пры гэтым грузінскае заканадаўства лічыцца вельмі строгім. У 2017 годзе ўлады краіны пачалі працу над лібералізацыяй антынаркатычнага заканадаўства. Пакуль рашэнне не прынята.

У Беларусі за збыт наркатычных рэчываў прадугледжваецца пакаранне тэрмінам ад 5 да 25 гадоў. У выпадку, калі малады чалавек набыў наркотык з мэтай спажывання, не захоўваў, не распаўсюджваў, — яго дзеянні караюцца ад 2 да 5 гадоў пазбаўлення волі. На практыцы гэта выглядае інакш. Часцей за ўсё, следчыя спрабуюць «раскруціць» падсуднага, каб ён здаў трэціх асоб, і ствараюць глебу для фармавання «арганізаванай групы» (ад 8 да 15 гадоў).

### Дамагліся

Да пратэстоўцаў у Тбілісі 13 мая звярнуўся міністр унутраных спраў Грузіі Георгій Гахарыя. Чыноўнік асабіста прынёс прабачэнні пацярпелым ад паліцыі падчас антынаркатычнага рэйду. Ён паабяцаў, што ўсе скаргі на паліцэйскіх будуць старанна разгледжаныя. Пасля перамоваў з уладамі ўдзельнікі мітынгаў прынялі рашэнне прыпыніць акцыі да наступнай суботы. Столькі часу пратэстоўцы далі МУС Грузіі на выкананне іх патрабаванняў.

У Беларусі Лукашэнка 8 мая сустрэўся са старшынёй Вярхоўнага суда Валянцінам Сукалам. «Кіраўнік дзяржавы адназначна адзначыў, што паслаблення ў дачыненні да збытчыкаў і распаўсюджвальнікаў наркотыкаў быць не можа. У дачыненні да спажыўцоў магчымыя нейкія паслабленні, — заявіў па выніках Сукала. — А што тычыцца формы, якая сёння абрана групай маці, то гэта з'яўляецца недапушчальным, гэта ціск і ўмяшанне ў правасуддзе. І гэта не той спосаб, які павінен быць у нас».

Праз 15 дзён «Маці 328» завяршылі галадоўку па стане здароўя (але некаторыя галадаюць да сёння). 11 мая яны прыехалі ў Мінск, каб перадаць зварот Аляксандру Лукашэнку праз Адміністрацыю прэзідэнта.

# Знакамітасці супраць палявання

НЧ

**У канцы красавіка грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) запусціла петыцыю з заклікам увесці маратoрый на вясновае паляванне на вадаплаўных птушак. Ініцыятыву падтрымалі пісьменнікі Уладзімір Арлоў і Святлана Алексіевіч, музыкі Іван Кірчук і Андрусь Такінданг, спартовец і спявак Віталь Гуркоў, а таксама іншыя вядомыя людзі Беларусі.**

Збор подпісаў супраць вясновага палявання на вадаплаўных птушак будзе доўжыцца да канца мая. Пасля гэтага петыцыя з подпісамі накіруюць у Адміністрацыю прэзідэнта. Штодня ў сацсетках АПБ публікуе постары з каментарамі вядомых беларускіх дзеячаў, якія падтрымалі петыцыю.

Справа ў тым, што 21 сакавіка 2018 года ўхваленыя новыя правілы палявання ў Беларусі. Падчас паляўнічых тураў цяпер дазволена страляць гусей абодвух палоў і качароў (самцоў качак) на працягу двух месяцаў. Вясновае паляванне, паводле новых правілаў, сёлета завяршылася 13 мая.

Цяпер у сезон палявання многія птушкі вымушаны не толькі наседжваць яйкі, але і вадзіць птушанят пад гук канонады (напрыклад, у шэрых гусей птушаняты часам вылупляюцца ўжо ў канцы красавіка). Дарэчы, цяперашнія правілы палявання дазваляюць забіваць і птушанят.

З дапамогай электронных вабікаў і паўаўтаматычных стрэльбаў (якія амаль паўсюдна ў Еўропе, акрамя Беларусі, забароненыя) некаторыя паляўнічыя забіваюць птушак сотнямі.

У петыцыі АПБ патрабуе, каб на вясновае паляванне на вадаплаўных птушак увялі мараторый, а выкарыстанне электронных вабікаў і паўаўтаматычнай зброі цалкам забаранілі.

Святлана Алексіевіч кажа: «Калі я жыву за горадам, я бачу птушак. У мяне адразу іншая карціна свету — яна радасная, птушкі прылятаюць з лесу, які побач, яны давяраюць людзям. Таму я не люблю чалавека са стрэльбай. Прызнаю толькі адно паляванне — з фотаапаратам».

«Кажуць старыя людзі, што птушкі — нашы Продкі», — адзначае лідар этна-трыа «Троіца» Іван Кірчук.

«Лепей чуць спеў птушак і захапляцца іх крыламі, чым чуць стрэлы зброі ды адчуваць жах забойства. Вар'яцтва, калі паляванне робіцца банальнай забавай ці спортам», — лічыць шматразовы чэмпіён па тайскім боксе, вакаліст гурта «Brutto» Віталь Гуркоў.

Карына Салавей, кіраўніца аддзела развіцця АПБ зазначае: «Уявіце сотні адзінокіх гусей, партнёраў якіх забілі, кінутыя кладкі, з якіх ужо ніколі не з'явяцца птушаняты, таму што птушкі, патурбаваныя паляўнічымі, пакінулі гняздо. Птушкі не могуць самі папрасіць пра дапамогу, але мы з вамі можам дапамагчы: чым больш грамадзян нашай краіны падпіша петыцыю за ўвядзенне мараторыя на вясновае паляванне, тым гучней будзе голас дзікай прыроды, тым больш шанцаў быць пачутымі прадстаўнікамі ўлады».

Адказ Адміністрацыі прэзідэнта мусіць паступіць на працягу месяца пасля атрымання звароту і будзе апублікаваны на сайце ptushki.org.

# Лідарам прафсаюза РЭП прад'яўлена абвінавачанне

**Лідарам прафсаюза РЭП Генадзю Фядынічу і Ігару Комліку прад'яўленае канчатковае абвінавачанне ва ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры (частка 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса).**

«Следства прыйшло да высновы: я і Комлік вінаватыя ў тым, што ў 2011 годзе прафсаюз РЭП не заплаціў у дзяржбюджэт падаткі на суму 22 тысячы 867 рублёў 10 капеек (з улікам дэнамінацыі). Вінаватым сябе не прызнаю і не прызнаю ніколі. Справа палітычна матываваная, галоўная мэта яе — аказаць ціск на мяне як на лідара прафсаюза, на прафсаюз РЭП і на незалежны прафсаюзны рух у цэлым», — заявіў Генадзь Фядыніч сайту praca-by.info.

Следства ўказвае, што крымінальны пераслед неўстаноўленых асоб па крымінальнай справе спынены 7 мая 2018 года, бо такіх асоб і не аказалася.

«Следчыя правялі сотні допытаў па ўсёй краіне. Відавочна, яны прыйшлі да высновы, што ў дзеяннях апытаных асоб складу злачынства няма. Абвінавачанымі застаюцца толькі Фядыніч і Комлік», — падкрэсліў Фядыніч.

Лідарам прафсаюза далі месяц на азнаямленне з матэрыяламі справы, пасля чаго яна будзе накіраваная ў суд.

«Праваабарончая супольнасць настойвала і настойвае на спыненні крымінальнага пераследу актывістаў незалежнага прафсаюза. Мы па-ранейшаму лічым справу палітычна матываванай, узбуджанай у сувязі з рэалізацыяй імі свабоды асацыяцый, а таксама актыўнай дзейнасцю прафсаюза РЭП па абароне сацыяльных і палітычных правоў грамадзян Беларусі», — каментуе праваабаронца Валянцін Стэфановіч.

**Паводле spring96.org**

# Адзіночны пікет таксама караецца

**Адзіночны пікет «Па 500 тут няма» прайшоў раніцай 14 мая ў цэнтры Оршы. Каля помніка Леніна малады хлопец устанавіў самаробную таблічку «Па 500 тут няма» і проста стаяў побач, чытаючы кнігу.**

Зразумела, што надпіс тычыўся абяцаных заробкаў па 500 долараў. Хлопец змог прастаяць каля помніка каля 15 хвілін, потым яго забралі міліцыянты. Суд пакараў яго штрафам у 20 базавых велічынь — 490 рублёў.

Партал orsha.eu знайшоў пікетоўца — 28-гадовага Рамана К. Ён патлумачыў сваё дзеянні як «акцыю адчаю». У свой час ён быў вымушаны звольніцца з працы, таму што давялося даглядаць хворую бабулю. Спрабаваў пачаць сваю справу, нават закупіў дарагую апаратуру, але па аб'ектыўных прычынах справа не ўдалася. Цяпер яму даводзіцца прадаваць абсталяванне, каб хаця б аплаціць камуналку. Пры гэтым словы з тэлеэкранаў пра поспехі ў эканоміцы яго папросту абуралі. Таму ён і выйшаў з плакатам «Па 500 тут няма», каб паказаць сапраўдную сітуацыю.

Пры гэтым ён адправіў у выканкам па электроннай пошце «папярэджанне», што выйдзе ў гэты дзень і час. З гэтым лістом да яго і падышлі міліцыянты.

Як распавёў Раман, на наступны дзень, 15 мая, да яго дадому прыйшлі следчыя з пастановай наператрус у сувязі з распачатай справай аб абразе нейкага чыноўніка (якога — яму не сказалі). У Рамана забралі кампутар, прынтар, здымны дыск і флэшку.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Статыстыка і рэальнасць

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Калі верыць статыстыцы, усё ў нас добра. Дый калі звонку паглядзець — таксама. Аляксандр Рыгоравіч лётае па свеце, прадаючы беларускія трактары, «бітва за ўраджай» трывае — нібыта ўсё ў парадку. Але паранейшаму насцярожваюць маленькія, але важныя факцікі, якія псуюць усю ідылію.**

Напрыклад, Белстат, як заўсёды, парадаваў нас лічбамі. Паводле яго звестак, рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва Беларусі (за вылікам падаткаў, збораў і ўнёскаў, скарэктаваныя на індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі) у І квартале 2018 года склалі 107,6% да ўзроўню І квартала 2017 года. То бок, мы сталі багацей на 7,6%.

Ці сапраўды гэта так? Зразумела, што грошай многа не бывае, аднак хто адчуў гэты рост? У каго дадалося грошай у кішэні? «Насельніцтва Беларусі» — вельмі цмяная фармулёўка.

Амаль адначасова з гэтым аптымізмам FINANCE.TUT.BY падлічыў мінімальны заробак беларусаў і нашых суседзяў. І вось тут лічбы не вельмі аптымістычныя. Нават не таму, што мінімальная заработная плата роўная 305 рублям. Урэшце, урад плануе да канца гэтага года падняць яе да ўзроўню сярэднедушавога мінімальнага спажывецкага бюджэту для сям'і з чатырох чалавек — 340,56 рубля (не вельмі істотна, але ж). Справа ў тым, што ў 2017 годзе вырасла колькасць арганізацый, якія плацілі работнікам заробак ніжэй за мінімальны. У мінулым годзе такіх прадпрыемстваў было 163 супраць 105 у 2016 годзе.

А зараз лічбы. У ахопленай санкцыямі і контрсанкцыямі Расіі мінімальны памер аплаты працы зраўняўся з пражытковым мінімумам і дасягнуў 11163 расійскіх рублёў на месяц (362 беларускіх рублі па курсе на 15 мая 2018 года). Мінімальная зарплата ва Украіне складае 3723 грыўні (285 рублёў). Прычым, Мінфін разглядаў магчымасць яе павышэння да 4200 грыўняў.

Мінімальная заработная плата ў Латвіі складае 430 еўра (1030 рублёў), у Літве — 400 еўра (958 рублёў), але абмяркоўваецца магчымасць павелічэння да 593 еўра. У Польшчы «мінімалка» з пачатку года складае 2100 злотых (1 179 рублёў).

Як бачым, па мінімальным заробку нас абганяюць усе, апроч ваюючай Украіны. Але і тая нас паступова даганяе.

Зразумела, як неаднаразова казалася на самых вышэйшых узроўнях, заробак павінен быць зароблены. Для гэтага павінны стварацца працоўныя месцы. На тыдні падпісаны ўказ, які дае льготы Беларуска-кітайскаму інвестыцыйнаму фонду.

Гэты фонд стварае кітайская CITIC Construction і Беларусбанк. Кітайскаму боку належыць 60% у новай арганізацыі. Плануецца, што статутны капітал складзе ўсяго 1 мільён долараў. Грошы фонду мяркуецца абменьваць на акцыі і аблігацыі беларускіх кампаній, якія пажадаюць прыцягнуць гэтыя інвестыцыі. Каб гэта зрабіць (нягледзячы на маленькі статутны фонд), будзе прыцягвацца дадатковае фінансаванне на ўнутраным і замежных рынках, а таксама стане эмітэнтам каштоўных папер. За першыя два гады фонд мае за мэту праінвеставаць праектаў на 50 мільёнаў долараў.

Але ці ёсць у нас такія праекты? І як быць з нашым інвестыцыйным кліматам? Зноў жа,

> **7,6%**
>
> **— на столькі, паводле падлікаў Белстата, выраслі даходы насельніцтва Беларусі ў І квартале 2018 года ў параўнанні з І кварталам 2017-га. Ці сапраўды гэта так? Хто адчуў гэты рост? У каго дадалося грошай ў кішэні?**

амаль адначасова са звесткамі пра стварэнне інвестыцыйнага фонду генеральная пракуратура распачала крымінальную справу ў дачыненні да былога генеральнага дырэктара ААТ «Аршанскі авіярамонтны завод» і службовых асоб украінскай «Мотор Січ», якія, дэ-факта, валодаюць гэтым заводам.

Справа распачатая па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 426 КК (перавышэнне службовых паўнамоцтваў, якое пацягнула цяжкія наступствы), па выніках праверачных мерапрыемстваў. Падставай паслужыла прычыненне службовымі асобамі заводу шкоды ў асабліва буйным памеры, а таксама істотнай шкоды яго інтарэсам.

Для арганізацыі папярэдняга расследавання, паведамляе Генпракуратура, крымінальная справа накіраваная ў цэнтральны апарат Следчага камітэта, а праверка выканання заканадаўства пры выкананні «Мотор Січ» інвестыцыйнага дагавора, а таксама ажыццяўленні фінансава-гаспадарчай дзейнасці ААТ «Аршанскі авіярамонтны завод» працягваецца.

Гэта і дзіўна: праверка яшчэ не скончаная, а крымінальная справа ўжо ёсць. Што яскрава сведчыць пра беларускі інвестыцыйны клімат. Да таго ж, «Мотор Січ» прыйшла на Аршанскі завод адносна нядаўна — у 2014 годзе. Ці паспелі інвестары разгарнуцца ўвогуле?

А ўкраінцы ў сваю чаргу зазначаюць, што гэта вельмі падобна на рэйдарскі захоп. «Размовы аб нацыяналізацыі Аршанскага завода зайшлі адразу пасля таго, як на пачатку красавіка Беларусь з афіцыйным візітам наведаў міністр абароны Кітая Вай Фэнхэ. Збліжэнне Беларусі і Кітая на плацдарме ВПК больш чым бясспрэчна, а таму і не дзіўна, што ў дадзеным кірунку яны працуюць у тандэме... А таму авіярамонтны Аршанскі завод можа быць менавіта тым запасным планам «Б», які кітайцы рэалізуюць у Беларусі. Вось такая шматхадовачка», — піша адзін з украінскіх блогераў.

«Мотор Січ» — адзін з найбуйнейшых сусветных вытворцаў рухавікоў для авіяцыйнай тэхнікі, а таксама прамысловых газатурбінных установак. З яе дапамогай, паводле меркавання экспертаў, Беларусь магла б атрымаць уласныя рухавікі для ракет. Бо зараз боезапас да таго ж славутага «Паланэзу» робіцца з кітайскімі рухавікамі...

Можа, сапраўды, стварэнне інвестфонду і праблемы Аршанскага авіярамонтнага звязаныя?

А ў мінскім судзе разгледжана чарговая справа Аляксандра Мураўёва, былога інвестара «Мотавела» і шклозаводу «Елізава». Гэтым разам яго абвінавачваюць у недаплаце падаткаў на 10 тысяч долараў і пагражаюць «давесіць» да 11-гадовага тэрміну яшчэ тры гады турмы.

Зноў дзіўна: Мураўёў ужо сплаціў усю шкоду. На судзе ён заявіў, што дзяржава ад яго знаходжання ў турме губляе штогод «у сто разоў больш». Прынамсі, аб'ём вытворчасці прадпрыемстваў, якімі ён кіраваў, дасягаў мільярда долараў, а ў самога Мураўёва гадзіннік на руцэ каштуе больш, чым «нанесеная дзяржаве шкода».

Пры Мураўёве «Мотавела» выпрабляў 200 тысяч ровараў і амаль 12 тысяч матацыклаў. Цяпер на прадпрыемстве працуе 100 чалавек, уласная вытворчая лінія страчана. Пасля крымінальнай справы Мураўёва антыкрызісным кіраўніком на завод прыйшоў былы мэр Мінска Мікалай Ладуцька, які завод збанкрутаваў.

Гэта ўсё, што трэба ведаць пра наш інвестыцыйны клімат.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Даічы Ёшыда

**Тэрмін пакарання японскага мастака зменшаны да 1 года 9 месяцаў зняволення. Ён выйдзе на волю 22 мая.**

Даічы Ёшыда — японскі мастак, які малюе ў стылі манга. У 2016 годзе ён быў запрошаны на фестываль манга ў Адэсу. У Кіеве хлопец набыў у антыкварнай краме розныя часткі зброі да 1945 года выпуску, каб выкарыстоўваць іх у якасці мадэляў для малюнкаў.

15 жніўня 2016 года Даічы Ёшыда вылецеў маршрутам з Кіева ў Токіё з транзітнымі перасадкамі ў аэрапортах Мінска і Абу-Дабі. Ён сцвярджае, што служба бяспекі ў аэрапорце Кіева праверыла і сфатаграфавала ўсе часткі зброі, якія знаходзіліся ў яго ным зарэгістраваным багажы, і дапусціла яго на рэйс.

У Мінску Ёшыда быў затрыманы, а ў красавіку 2017-га асуджаны на 4 гады 6 месяцаў зняволення за незаконны правоз і перамяшчэнне агнястрэльнай зброі — нягледзячы на тое, што не толькі кіеўскія памежнікі палічылі гэтыя часткі зброі бясшкоднымі, але і «Белавія» прыняла іх да перавозу.

## Артур Міхальскі

**Былы дырэктар Усходняга Дэпартамента МЗС Польшчы, імаверна, стане новым паслом Рэспублікі Польшча ў Беларусі.**



Як паведамляе польскі партал PolskieRadio.pl, спасылаючыся на адказ на запыт у бюро прэс-сакратара МЗС Польшчы, працэдура прызначэння пасла ў Рэспубліку Беларусь у цяперашні час на разглядзе. Кандыдатам на гэту пасаду з'яўляецца Артур Міхальскі, былы дырэктар Усходняга дэпартамента МЗС. На сёння яго кандыдатура становіцца зацверджана Камісіяй замежных спраў Сейма Польшчы ў якасці кандыдата на пасаду пасла ў Мінску. Рашэнне прынята на мінулым тыдні, публічна агучана сёння. Міністэрства папярэджвае, што «працэдура прызначэння Надзвычайных і Паўнамоцных Паслоў Польшчы складаная і шматэтапная».

З 11 кастрычніка 2012 года па 30 чэрвеня 2017 года Артур Міхальскі працаваў Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Малдова.

Міхальскі нарадзіўся ў 1962 годзе ў Варшаве. Скончыў філасофскі факультэт Акадэміі каталіцкай тэалогіі. Працаваў у каталіцка-грамадскім часопісе «Лад», сферай яго інтарэсаў у асноўным быў рэгіён Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Падчас журналісцкай працы сачыў і апісваў працэсы дэмакратызацыі і барацьбы за свабоду, вынікам якіх быў канец камунізму. Пісаў рэпартажы і ладзіў інтэрв'ю з асобамі з Чэхаславакіі, Венгрыі, СССР, якія прымалі ўдзел у працэсе змен. У выніку тых размоў і інтэрв'ю была напісана кніга «На руінах таталітарызму — размовы аб адраджэнні хрысціянства».

У 1990 пачаў працу ў МЗС, працаваў як прэс-сакратар амбасады ў Маскве. Быў начальнікам расійскага аддзела ў Цэнтры ўсходніх даследаванняў, а потым начальнікам расійскага аддзела ў Дэпартаменце Усходняй Еўропы МЗС. Таксама быў прэс-сакратаром у амбасадзе ў Вашынгтоне. Працаваў у Дэпартаменце Амерыкі, быў намеснікам амбасадара ў Канадзе.

Пасля завяршэння місіі ў Кішынёве працаваў дырэктарам усходняга дэпартамента МЗС. Жанаты, мае траіх дзяцей.



## Дыега Марадона

**Сусветна вядомы футбаліст стаў старшынёй праўлення брэсцкага «Дынама».**

Чуткі пра тое, што Марадона можа ўзначаліць беларускі клуб, ад пачатку палічылі «качкай». Але агент славутага футбаліста Стэфан Сэсі пацвердзіў, што брэсцкі клуб звярнуўся да Марадоны з прапановай стаць трэнерам, і сам Марадона не супраць.

І неўзабаве адвакат Марадоны Маціяс Морла апублікаваў у сваім Instagram-акаўнце сумесны здымак з легендарным аргенцінцам і беларускімі сцягамі. Фота ён падпісаў так: «Рады, што дасягнулі дамоўленасці з беларускім клубам «Дынама» (Брэст). Прызначэнне Дыега Марадоны ў якасці старшыні праўлення клуба і адказнага за ўсю футбольную вертыкаль брэсцкага «Дынама» — гэта новы выклік для Дыега, як часта бывала ў яго жыцці».

Як пішуць замежныя СМІ, Марадону будзе належаць 20% акцый ФК «Дынама-Брэст».

# Саюзніцкі шпагат

## Чаго чакае афіцыйны Мінск ад новага прэзідэнцкага тэрміну Уладзіміра Пуціна?



Валерый КАРБАЛЕВІЧ

**Пасля шматмесячнага перапынку Аляксандр Лукашэнка і Уладзімір Пуцін нарэшце правялі кароткія перамовы на палях саміту ЕАЭС. За гэты час назапасілася шмат спрэчных пытанняў, якія варта было б абмеркаваць.**

Але, здаецца, у дадзены момант на першае месца выходзіць фармальнае, сімвалічнае пытанне. У міжнароднай палітыцы існуе традыцыя, што першы замежны візіт новы кіраўнік дзяржавы ці ўраду ажыццяўляе ў тую краіну, якая з'яўляецца для яго найбольш важным партнёрам. Гэта дэманстрацыя замежнапалітычнага прыярытэту. Дарэчы, за гэтым уважліва сочаць эксперты, СМІ, з гэтага робяць важныя высновы.

З канца 1990-х гадоў, з моманту стварэння Саюзнай дзяржавы, склалася традыцыя, што не толькі кіраўнік Беларусі, але і прэм'ер першы візіт пасля заступлення на пасаду рабілі ў Расію. Са свайго боку, Уладзімір Пуцін і кіраўнікі ўраду РФ першапачаткова наведвалі Мінск.

Напрыклад, у 2012 годзе, адразу пасля інаўгурацыі, Уладзімір Пуцін свой першы замежны візіт зрабіў у Беларусь. Прычым, расійскі кіраўнік асабліва не хаваў, што гэта быў сімвалічны, рытуальны жэст. Таму візіт быў кароткім. Гутарка лідараў дзвюх дзяржаў у беларускай сталіцы працягвалася каля гадзіны, яшчэ столькі ж часу было адведзена на перамовы бакоў у пашыраным складзе. Але Лукашэнка не хаваў свайго шчасця: ён проста ззяў, адчуваючы сябе пераможцам. Кіраўнік Беларусі тады сустракаў свайго расійскага калегу ў аэрапорце і праводзіў да самага трапа самалёта — што бывае вельмі рэдка, толькі ў выключных выпадках. І некалькі разоў дзякаваў: «Я вам вельмі ўдзячны за гэты візіт. Гэты візіт важнейшы за многія эканамічныя дамоўленасці Беларусі і Расіі».

Відавочна, што цяпер беларускі правадыр вельмі хацеў бы, каб зноў першы візіт Уладзіміра Пуціна пасля яго інаўгурацыі адбыўся менавіта ў Мінск. Выкажу меркаванне, што менавіта гэтае пытанне было галоўным падчас сустрэчы двух лідараў у Сочы.

І такі візіт анансаваны. Аляксандр Лукашэнка 9 мая падчас святочных урачыстасцяў з гонарам расказаў, што чарговае пасяджэнне Вышэйшага дзяржсавету Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі запланавана правесці ў Мінску. Гэта адбудзецца у трэцяй дэкадзе чэрвеня.

Справа ў тым, што, паводле статуту Саюзнай дзяржавы, гадавы бюджэт гэтай арганізацыі мусіць зацвердзіць Вышэйшы дзяржсавет. Ён, паводле нармальнай логікі, павінен праходзіць ці ў канцы папярэдняга года, ці ў пачатку новага. Бо як жа арганізацыя можа працаваць без бюджэту? Аднак бюджэт Саюзнай дзяржавы на 2018 год будзе зацверджаны толькі ў канцы чэрвеня — то бок у сярэдзіне года. І гэты факт вельмі шмат кажа пра сапраўднае стаўленне Расіі да такой дзіўнай структуры, як Саюзная дзяржава.

Як бы тое ні было, але, паводле папярэдніх дамоўленасцяў, у трэцяй дэкадзе чэрвеня не толькі кіраўнік Расіі — усё палітычнае кіраўніцтва ўсходняй суседкі завітае ў Мінск. Бо чальцамі Вышэйшага дзяржсавету Саюзнай дзяржавы з'яўляюцца кіраўнікі краінаў, прэм'ер-міністры, кіраўнікі палат парламентаў Беларусі і Расіі.

Вось тут і ўзнікае пытанне: ці будзе гэта першы замежны візіт Уладзіміра Пуціна пасля інаўгурацыі? Да трэцяй дэкады чэрвеня — больш за месяц. Нейк цяжка ўявіць, што ў расійскага лідара ў гэты час не будзе замежных паездак.

Напрыклад, саміт Савета кіраўнікоў дзяржаў Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва пройдзе ў пачатку чэрвеня 2018 года ў кітайскім горадзе Ціндао. Зразумела, што Пуцін туды паедзе. А значыць, і яго прыезд у Мінск будзе не першым замежным візітам. Але БТ зазначыць, што паездкі на саміт не лічацца «візітамі», а права «першай шлюбнай ночы» ўсё роўна застаецца за Мінскам.

Аднак усё гэта фармальны, сімвалічны бок беларуска-расійскіх адносін. Звернемся да змястоўных пытанняў.

Я згодны з высновамі большасці экспертаў, што ўступленне Уладзіміра Пуціна ў новы прэзідэнцкі тэрмін істотна не паўплывае на стан двухбаковых дачыненняў паміж дзвюма краінамі. Саюзніцкія адносіны захаваюцца, хоць, як звычайна, ім будуць спадарожнічаць бясконцыя канфлікты і скандалы. Можна канстатаваць, што сёння Мінск і Масква па-рознаму бачаць парадак дня стасункаў паміж краінамі.

Найперш, Беларусь імкнецца забяспечыць свабодны і прыярытэтны доступ беларускай прадукцыі на расійскі рынак. Гаворка не толькі пра харчовыя тавары (малако і мяса). Мінск дамагаецца, каб захады ўраду Расіі па абароне нацыянальнага вытворцы не пашкодзілі беларускім прадпрыемствам, каб нашы тавары мелі такія ж ільготы на тэрыторыі РФ, як і ўласна расійскія.

**Уступленне Уладзіміра Пуціна ў новы прэзідэнцкі тэрмін істотна не паўплывае на стан двухбаковых дачыненняў. Саюзніцкія адносіны захаваюцца, хоць, як звычайна, ім будуць спадарожнічаць бясконцыя канфлікты і скандалы**

Цягам усіх гадоў так званай «беларуска-расійскай інтэграцыі» галоўнай праблемай, вакол якой адбываецца супрацьстаянне паміж Мінскам і Масквой, з'яўляецца пытанне энергарэсурсаў. Беларусь, як звычайна, імкнецца атрымаць расійскі газ і нафту на як мага больш ільготных умовах, Расія квола супраціўляецца. Гэтым разам усе энергетычныя пытанні вырашаныя да 2019 года. Цяпер ідуць перамовы пра цэны і ўмовы паставак энергарэсурсаў у наступныя гады.

І вось тут можа ўзнікнуць адна праблема. Яна моцна звязаная з тым канфліктам паміж Расіяй і Захадам, які хутка нарастае.

Запаветная мара беларускага кіраўніцтва — з 2025 года перайсці на ўнутраныя расійскія кошты на энерганосьбіты. Уласна кажучы, гэта быў галоўны пернік, з дапамогай якога Масква ўцягнула Мінск у Мытны саюз і ЕАЭС. Справа ў тым, што гэта абяцанне Крамля зыходзіла з тагачасных планаў кіраўніцтва РФ да 2025 года перавесці ўнутраныя расійскія кошты на энерганосьбіты на ўзровень сусветных. Гэта было часткай стратэгіі інтэграцыі Расіі ў сусветную эканоміку. У сувязі з чым Расія брала пэўныя абавязальніцтвы перад уступленнем у Сусветную гандлёвую арганізацыю (СГА).

Але з таго часу сітуацыя радыкальна змянілася. Цяпер, калі супраць Расіі ўводзяць эканамічныя санкцыі, яе спрабуюць выкінуць з працэсаў глабалізацыі, яна апынулася ў ізаляцыі, Масква ў адказ можа абнуліць усе свае абавязальніцтвы перад СГА і адмовіцца ад ранейшых планаў. Бо яны прымаліся ў іншых умовах. У выніку ўсе разлікі беларускага ўраду пагражаюць так і застацца марамі. А гэта можа выліцца ў вялікі скандал у адносінах паміж саюзнікамі.

І прыкметы гэтага канфлікту ўжо праглядаюцца. На саміце ЕАЭС у Сочы Лукашэнка заявіў: «На жаль, зноў не гатовыя для абмеркавання на вышэйшым узроўні праграмы фармавання агульных рынкаў газу, нафты і нафтапрадуктаў. Спадзяемся, што хаця б да канца бягучага года мы паставім подпісы пад гэтымі асноватворнымі дакументамі. І не трэба тут падазраваць Беларусь, што гэта толькі ў інтарэсах Беларусі. Мы дамовіліся, што мы вырашым гэтае пытанне, значыць, яго трэба вырашаць».

Яшчэ адной праблемай беларуска-расійскіх адносін стане вайскова-тэхнічнае супрацоўніцтва. Расія адмаўляецца пастаўляць у Беларусь найноўшае ўзбраенне (самалёты, ракетныя комплексы) нават за грошы. Бо, па-першае, не вельмі давярае саюзніку. Па-другое, Масква хоча прымусіць такім чынам Мінск на размяшчэнне сваіх вайсковых базаў на беларускай тэрыторыі.

Акрамя таго, у 2020 годзе заканчваецца тэрмін дзейнасці пагаднення аб знаходжанні ў Беларусі двух расійскіх вайсковых аб'ектаў — радыёлакацыйнай станцыі пад Ганцавічамі і станцыі сувязі ВМФ Расіі пад Вілейкай. Умовы новага пагаднення могуць стаць прадметам вострых дыскусій паміж саюзнікамі.

Ці яшчэ адна тэма для рознагалоссяў: Беларусь не атрымала чарговыя траншы ад Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця ў памеры 400 мільёнаў долараў. Яны павінны былі паступіць у першым квартале 2018 года. Хутка скончыцца другі квартал, а грошай няма. Фонд лічыць, што беларускі бок не выканаў усе ўмовы крэдытнай праграмы.

Дарэчы, у гэтым годзе Беларусь павінна заплаціць Расіі 1 мільярд 7,5 мільёна долараў доўгу за мінулыя крэдыты. І, як звычайна, Мінск будзе прасіць аб рэфінансаванні запазычанасці. Гэта значыць, прасіць новы крэдыт.

Са свайго боку, Расія хацела б ад Беларусі большай лаяльнасці, большай падтрымкі замежнай палітыкі Масквы. Бо атрымліваецца, што ў сваёй канфрантацыі з Захадам Крэмль апынуўся без саюзнікаў. Гэта для Масквы даволі дыскамфортна. Таму Пуцін будзе ціснуць на Беларусь, патрабаваць стаць у адзін шэраг.

Увогуле, апошнім часам у палітыцы Беларусі назіраецца дзіўны парадокс. Эканамічная залежнасць ад Расіі не змяншаецца, а ў замежнай палітыцы афіцыйны Мінск усё больш дыстанцуецца ад Масквы. Нейкі час можна сядзець у такім шпагаце. Але ці доўга?

# «У новага пакалення складана будзе адабраць унутраную незалежнасць»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Аднойчы працу гэтай жанчыны параўналі з дзейнасцю цэлага навукова-даследчага інстытута. І з гэтым цяжка не пагадзіцца. Хоць сама гераіня сціпла адмахваецца ад такіх параўнанняў. Праграмістка па адукацыі, грамадская дзяячка Валерыя Чарнаморцава распавяла пра сваю сустрэчу з Радзімай, пераадоленні, захапленні і мары.**

## Беларуская мова на кухні

Я нарадзілася ў Мінску, але мая маці з-пад Воршы, з мястэчка Высокае. Там на могілках ляжыць мая радзіна, таксама захавалася хата, якую будаваў дзед. Першае пачуццё Радзімы ў мяне з'явілася, калі мы ўвосень 1996 года паехалі адзначаць угодкі бітвы пад Оршай. Там амаль нікога не было. І зранку на высокім беразе Дняпра па-над аршанскім полем да мяне прыйшло гэтае пачуццё.

Мы з аднакласніцай Крысцінкай, як «ціхія алкаголікі», у старшай школе ўвечары на кухні пачыналі размаўляць па-беларуску. Вучыліся ў мінскай матэматычнай школе №19 імя Янкі Купалы. У нас быў вельмі спецыфічны гісторык — злосны антыбеларус, што прынцыпова не прызнаваў беларусаў за нацыю. І я пачала вучыць гісторыю Беларусі насуперак яму. У школе я першая зняла піянерскі гальштук і стала насіць бел-чырвона-белы значок.

У мяне была вельмі цікавая цётачка Люда. Яна галасавала за Пазьняка, мела неблагі збор беларускай літаратуры, выхоўвала нас на Данчыку — уключала касеты на лецішчы. У 1993 годзе мы з ёй упершыню былі на мітынгу з нагоды Дня Волі. Мне было тады 14 гадоў, я была вельмі натхнёная, пасля ўсіх віншавала з 25 сакавіка. Я хадзіла ў студыю выяўленчага мастацтва ў Палацы дзяцей і моладзі, і калі павіншавала выкладчыка з 75-годдзем БНР, ён мяне не зразумеў — нічога не ведаў пра БНР!

Калі я была ў старшых класах школы, мы з мамай далучыліся да «Беларускай хаткі» — краязнаўчага клуба, які збіраўся ў той самай Беларускай хатцы, філіяле музея Максіма Багдановіча. Музей тады ўзначальваў Алесь Бяляцкі, а хатку — Эдуард Акулін. Клуб ладзіў і вандроўкі па Беларусі, і мы патроху пачалі ездзіць, цікавіцца нашай спадчынай. Гэта быў асяродак людзей, прафесійна не звязаных з культурай: бухгалтары, урачы, біёлагі, банкаўскія работнікі. Але яны збіраліся штотыдзень і ладзілі розныя імпрэзы, спектаклі.

## Бялізна ў грамадскіх месцах

У школе ў мяне было добра з матэматыкай, а вось мовы даваліся цяжка. Па беларускай былі «чацвёркі», бо я інтуітыўна пісала паўсюль мяккія знакі, і толькі пазней зразумела, што гэта была тарашкевіца. Пасля школы, маючы срэбраны медаль і перамогі ў алімпіядах па матэматыцы ды фізіцы, я магла паступаць без экзаменаў у РТІ (цяперашні БДУІР), які да таго ж знаходзіўся насупраць майго дома. Паступіла на спецыяльнасць «эканамічная інфарматыка», але пісала лекцыі і адказвала па-беларуску. У РТІ працавала Людміла Стома, сястра Анатоля Майсені, які загінуў пры дзіўных абставінах. Яна мае конкурсныя працы па тэорыі імавернасці рэцэнзавала па-беларуску.

Мне здаецца, гэта абсалютна няслушная ўстаноўка, што дакладныя і тэхнічныя дысцыпліны нельга вывучаць на беларускай мове. У нас вельмі шмат праграмістаў размаўляюць па-беларуску.

Я ўдзельнічала ў многіх мітынгах, але, што адметна, мяне на іх ніколі не «бралі». Дакладней, некалькі разоў затрымлівалі, але да судоў не даходзіла. Аднойчы мяне затрымалі за расклейванне ўлётак, і запомнілася недарэчная фармулёўка артыкула, якім пагражалі: вывешванне бялізны ў грамадскіх месцах. Некалькі гадоў я актыўна ўдзельнічала ў стварэнні БХД (Беларускай хрысціянскай дэмакратыі), але мяне больш цікавіла грамадска-культурніцкая дзейнасць, чым палітычная.



## Былыя вязні ГУЛАГу

У аргкамітэце па стварэнні БХД я пазнаёмілася з беларускамоўным пастарам Эрнстам Сабілам, які праседзеў 13 гадоў у ГУЛАГу. Ён прапанаваў наведаць «былых байцоў», мы сталі шукаць беларусаў, якія зведалі сталінскія лагеры. Гэта вельмі цікавая і амаль недаследаваная тэма — пасляваенны моладзевы рух. Мы запісвалі ўспаміны, збіраем ахвяраванні, каб падпісаць былых вязняў ГУЛАГу на незалежныя газеты, стараемся дапамагчы матэрыяльна. Дзякуючы знаёмству з гэтымі людзьмі паўстала і была рэалізаваная ідэя Віртуальнага музея савецкіх рэпрэсій.

Сярод тых, хто зведаў сталінскі ГУЛАГ, для мяне знакавымі з'яўляюцца дзве асобы: мая любімая паэтка Ларыса Геніюш і драматург Францішак Аляхновіч. Мяне вельмі ўразіла, што жахі, апісаныя ў Аляхновічавым творы «У кіпцюрох ГПУ», напісаны такой лёгкай мовай. Гэтая неадпаведнасць вельмі кранае. А ў вершах Геніюш адчуваецца ўнутраны рытм, стрыжань, і ў жыцці яна была вельмі цвёрдым чалавекам, нездарма яе ў лагеры жанчыны называлі Маці, а яе вершы — глюкозай. Аналізуючы свае не вельмі добрыя ўчынкі, я часам думаю: «Што б сказала Ларыса Антонаўна?»

Насамрэч, людзі, якія прайшлі праз ГУЛАГ, вельмі розныя. Ёсць зламаныя, а ёсць нязломныя. І, канешне, найбольш уражваюць тыя, хто, прайшоўшы скрозь гэтае пекла, засталіся людзьмі са светлымі душамі. Як кажа адна з былых зняволеных ГУЛАГу, якую я часта наведваю, паэтка і патрыётка Надзея Дзямідовіч, «людзі сваёй душы». Але такіх вельмі мала.

## Дзед і беларуская Галгофа

Мой дзед Сяргей не быў арыштаваны. Але яшчэ напярэдадні 1937 года яго папрасілі даносіць на аднакашнікаў па Горы-Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, і пагражалі забраць, калі адмовіцца. У яго было два шляхі: альбо стаць здраднікам, альбо арыштаваным. Ён выбраў трэці: уцёк і ўсё жыццё хаваўся. Ён памёр за год да майго нараджэння, і перад смерцю расказаў пра гэта маёй цётцы, а яна распавяла мне.

Кажуць, дзед быў вельмі таленавіты і мог многага дасягнуць, але так і не скончыў сваю адукацыю і ўсё жыццё пражыў у страху. І ўсё наша грамадства жыло ў гэтым страху. Былыя вязні ГУЛАГу нават дзецям не расказвалі, што перажылі. Таму, калі ў 1988 годзе выйшаў артыкул пра Курапаты, гэта быў сапраўды выбух у грамадстве. Трагедыі безлічы рэпрэсаваных, раскулачаных сем'яў, якія кожны асабіста доўгі час трымаў у сакрэце, выбухнулі плыняй праўды. Менавіта таму Курапаты сталі сімвалам.

Я ладзіла шмат бясплатных экскурсій для ўсіх ахвотных па Курапатах — з гісторыкамі і археолагамі, якія даследавалі гэтае месца. Цяпер распавядаю пра яго сама. У маёй версіі экскурсія мае назву «Курапаты — беларуская Галгофа». Галгофа — гэта не толькі сімвал смерці, але і сімвал уваскрэсення Хрыста. Так і Курапаты — не толькі сімвал рэпрэсій, але і сімвал уваскрэсення Беларусі. Курапаты — месца, дзе дагэтуль працягваецца барацьба дабра і зла, праўды і хлусні.

## Барды і Вільня

Сама я не маю ні слыху, ні голасу, гітару па «самамучыцелі» так і не засвоіла. Але сэнсоўная рытміка бардаўскіх спеваў захапляла з юнацтва, нават нешта спрабавала на беларускую перакладаць. А калі пачула беларускіх бардаў, стала хадзіць на канцэрты, ездзіць на бардаўскія фэсты, займела мянушку «беларуская бардаўская тэрарыстка», бо бессаромна замаўляла ў музыкаў песні па-за праграмай. Шмат з кім з беларускіх бардаў цяпер сябрую і арганізую іх выступы.

Сама не спяваю і вершаў не пішу. Адзінае выключэнне — верш пра Вільню. Вільня — гэта мой самы любімы горад у свеце. У лабірынтах яе старажытных вулачак заблукалі шматлікія беларускія сляды, амаль кожны дамок і кожны храм там мае нейкую беларускую гісторыю, сплеценую з агульнаеўрапейскай. Упершыню я была з маці ў Вільні ў 10 гадоў — акурат тады, калі там праходзіў з'езд БНФ, і як ні дзіўна, запомніла на вакзале людзей з бел-чырвона-белымі сцягамі.

Вільня — утульная, прыгожая, «свая», мае шмат дворыкаў-сакрэцікаў, якія бясконца можна адкрываць для сябе і для сяброў. Мне тады не распавядалі пра беларускія мясціны, а я, памятаю, гледзячы з Гедымінавай гары на чырвоную дахоўку ды касцёльныя вежы, не магла зразумець, чаму гэта ўсё не нашае. А пасля аказалася, што Вільня ўсё-ткі была некалі нашай гістарычнай сталіцай. І ўжо амаль два дзесяцігоддзі імкнуся вазіць туды беларусаў, каб распавесці пра нашу сапраўдную еўрапейскую гісторыю.

## Вандроўкі

Я не лічу турызмам вандроўкі па Беларусі, якія арганізую. Часам, калі не збіраецца поўны аўтобус, я не толькі не атрымліваю заробак, але і закладаю свае грошы. Бывае, што грошы ад вандровак ідуць на арганізацыю іншых мерапрыемстваў. Я лічу, што цяпер вельмі патрэбныя розныя асветніцкія праекты. Магчыма, у нас пакуль яшчэ не тая незалежнасць, пра якую марылі вязні ГУЛАГу, але ўсё-ткі выхоўваецца пакаленне незалежнай Беларусі. І ў яго ўжо складана будзе адабраць яго ўнутраную незалежнасць.

## Шлях да веры

Калі мне было 10 гадоў, мы ўсе разам — мама, я, цётачка і стрыечная сястра — хрысціліся ў царкве Аляксандра Неўскага. Я памятаю свой хрост і адчуванні: раздражненне павекаў ад алею, словы святара, што наша хрышчэнне не павінна быць мёртвым, і тое, што я, калі выходзіла з царквы, заявіла, што мы да гэтага па-сапраўднаму яшчэ не гатовыя. Да хрышчэння павінен быць нейкі шлях, катэхізацыя, агалашэнне. Мне было цяжка, бо я нічога не ведала, але было жаданне прыходзіць у царкву. Спрабавала маліцца — для мяне было натуральным звяртацца да Бога па-беларуску, — але быў нейкі дысананс з царкоўнаславянскай…

У 1996 годзе пры Свята-Петрапаўлаўскім саборы стваралася Брацтва Канстанціна Астрожскага. Паколькі я паходжу з Аршаншчыны, для мяне вельмі важныя і Аршанская бітва, і прыклад веры Астрожскага.

Беларускамоўнае моладзевае брацтва стала маім усвядомленым шляхам да Бога. І хоць царква — не нацыянальная, а Хрыстовая, я лічу, што ў кожнай краіне да Бога трэба звяртацца на сваёй мове. Многія хрысціяне адмаўляюць нацыянальную, але мой адказ такі: калі вы хочаце быць годнымі грамадзянамі Валадарства Божага, вы павінны быць годнымі грамадзянамі краіны, якую Госпад даў вам тут.




**Фота з асабістага архіву Валерыі Чарнаморцавай**

# Ці сапраўдны палкоўнік? Метамарфозы Уладзіміра Замяталіна

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Бягучы год адзначаны юбілеямі тых, хто пачынаў ці працаваў з Аляксандрам Лукашэнкам і прыклаў сваю руку да ўзвядзення да ўлады таго рэжыму, які дагэтуль пануе ў Беларусі. Да круглай даты рыхтуюцца Віктар Шэйман і Віктар Кучынскі, Леанід Козік і Іван Ціцянкоў.**



**Уладзімір Замяталін — пасланец Лукашэнкі ў Іраку.** Крыніца: Свабода, 1995 год

Лёсы гэтых людзей паказальныя. Дзякуючы Лукашэнку, яны ўзляцелі ўверх і ўявілі сябе ўладарамі, але, як адпрацаваны матэрыял, былі выкінутыя сваім патронам на сметнік гісторыі (вярнуцца ў «абойму», праўда, на другасныя ролі, удалося шляхам вялікіх намаганняў толькі Віктару Шэйману).

14 мая сёмы дзясятак разменяў палкоўнік Уладзімір Замяталін. Журналісцкая супольнасць (як дзяржаўная, так і незалежная) па сённяшні дзень памятае гэтага чыноўніка, які прынёс прэсе нямала праблемаў. А нядаўна Замяталін аскандаліўся ў «Еўропе», публічна зневажаючы беларускую мову. Гэта яшчэ адна нагода зазірнуць у яго мінулае.

### «Галандская качка»

Кар'ера Замяталіна як прэтэндэнта на валоданне грамадскай думкай і лаўры савецкіх ідэолагаў кшталту Суслава пачалася са звычайнага падману і шантажу 14 чэрвеня 1994 года. У гэты дзень цэнтральныя газеты краіны «Советская Белоруссия» і «Знамя юности» падалі артыкул (на другі дзень ён з'явіўся ў «Белорусской ниве» і ў «Рэспубліцы») пад інтрыгоўнай назвай «Беларусь беременна первым президентом. Кто им станет?». Артыкул нібыта ўяўляў перадрук з нідэрландскага выдання «Amsterdammguiere». Аўтарам значыўся A.Van-Berst. У публікацыі меліся спасылка на расійскі «ИТАР-ТАСС» і прозвішча перакладчыка («В. Ганищев»).

Матэрыял быў невыпадковым. Крыху больш чым праз тыдзень павінны былі адбыцца першыя прэзідэнцкія выбары, на якіх фаварытам лічыўся Кебіч. У артыкуле тагачаснага старшыню Савета Міністраў узнялі да нябёсаў, панегірыкам на адрас Вячаслава Францавіча пазайздросціў бы сам Ельцын. Гэта і новы беларускі Машэраў, і палітык-рэаліст, і найбольш аўтарытэтная фігура сярод лідараў краін СНД, і прагматык, і энергічны кіраўнік. Каб не разважлівая палітыка Кебіча, сцвярджаў аўтар, «тихая и живописная республика» непазбежна пагрузілася б у багну хаосу і бязладдзя. Заключэнне Беларуссю эканамічнага і грашовага саюза з Расіяй, запэўніваў A.Van-Berst, было вынікам стратэгічнага майстэрства Кебіча.

«Галандзец» закрануў і іншых прэтэндэнтаў на пасаду. Больш за ўсіх дасталася былому старшыні Вярхоўнага Савета, «сыну поляка-католика и польской еврейки» Станіславу Шушкевічу, які абвінавачваўся ў нацыяналізме, русафобіі, адсутнасці папулярных ідэяў, пазбяганні ўсялякай адказнасці ў дзяржаўных справах і гэтак далей.

У артыкуле ішла гаворка і пра Лукашэнку, які быў пайменаваны ў якасці «директора крестьянского кооператива». Лукашэнка, гаварылася ў артыкуле, нічога не можа прапанаваць насельніцтву, акрамя прымітыўных тэзаў барацьбы з карупцыяй. Калі «импульсивный, взрывоопасный» Лукашэнка прыйдзе да ўлады, то Беларусь чакае нестабільнасць і палітычная непрадказальнасць.

Артыкул меў эфект выбуху. У сваіх мемуарах «Искушение властью» Кебіч сцвярджаў, што праз гадзіну пасля з'яўлення газет у кіёсках яму пазванілі Шушкевіч і абвінавацілі ў паклёпе. Сам Шушкевіч накіраваў ліст паслу Расіі ў Беларусі, каб высветліць, ці мае нейкія адносіны ИТАР-ТАСС да гэтай публікацыі (у ИТАР-ТАСС звярнулася і «Белорусская деловая газета»). Адказ ад расійскага агенцтва быў шакуючым: такога галандскага выдання не існуе ўвогуле; перакладчык з такім прозвішчам у ИТАР-ТАСС ніколі не працаваў.

«Галандская качка» апынулася «беларускай ліпай», скіраванай на дыскрэдытацыю палітычных канкурэнтаў Кебіча.

Неўзабаве высветлілася, што за публікацыяй стаяў прэс-сакратар Кебіча Уладзімір Замяталін. У мемуарах Кебіч піша, што Замяталін падмануў Асінскага, даслаў да галоўнага рэдактара кур'ера з запячатаным канвертам і загадам надрукаваць. Публікацыя галандскага артыкула стала першым у гісторыі незалежнай Беларусі прыкладам выкарыстання ў перадвыбарчай барацьбе «чорнага піяру», калі палітыкі не спыняліся ні перад якімі сродкамі, каб зганьбіць адзін аднаго.



**Аляксандр Фядута і Уладзімір Замяталін.** Крыніца: Имя, 1996

### Армейскі рупар

Замяталін — фігура загадкавая. Яго біяграфія ў адкрытым доступе вельмі сціплая. Амаль нічога не вядома пра перыяд службы Замяталіна ва Узброеных Сілах, у тым ліку і ў Беларускай вайсковай акрузе, дзе ён з'явіўся ў 1983 годзе. Дакладна вядома, што пасля скону СССР яму пашанцавала: ён не толькі не застаўся па-за войскам, але нават няблага падняўся, узначаліўшы прэс-цэнтр Мінабароны ўжо незалежнай Беларусі. Таксама невядомыя матывы міністра Паўла Казлоўскага, які даў згоду на прызначэнне Замяталіна. Хутчэй, паўплывалі нейкія асабістыя знаёмствы. Аляксандр Фядута, напрыклад, сцвярджае, што сябрам Замяталіна быў генерал Валерый Паўлаў — дэпутат Вярхоўнага Савета 12 склікання і падначалены «правай рукі» Кебіча Генадзя Данілава.

Невядома і тое, калі Замяталін быў прызначаны кіраўніком прэс-цэнтра. Хутчэй за ўсё, гэта адбылося пасля 6 мая 1992 года, калі Саўмін зацвердзіў пастанову, паводле якой Беларуская вайсковая акруга ліквідавалася, а ўсе воінскія фармаванні (акрамя стратэгічных) на тэрыторыі краіны падпарадкоўваліся Мінабароны.

У руках Замяталіна апынулася газета «Во славу Родины», якая павінна была тлумачыць палітыку Мінабароны па рэформе айчынных Узброеных Сіл. На старонках выдання з зайздросным пастаянствам пачала з'яўляцца інфармацыя пра пасяджэнні вайсковай міністэрскай калегіі, на якіх абмяркоўваліся пытанні скарачэння і мадэрнізацыі арміі, раскрадання вайсковай тэхнікі і маёмасці, «дзедаўшчыны», будаўніцтва жылля для ваенных, выкарыстання ў войсках беларускай мовы і іншага.

Прэс-цэнтр у тыя гады не мог быць не ўцягнуты ў палітычныя працэсы. Калі па ініцыятыве Казлоўскага ў войску пачалася барацьба з так званымі «нацыяналістамі» з БЗВ, прэсавы цэнтр і «Во славу Родины» (у сярэдзіне ліпеня 1992 года на сустрэчы з калектывам газеты Казлоўскі раскрытыкаваў рэдакцыю за публікацыю 1 ліпеня артыкула пра сустрэчу прадстаўнікоў міністэрства з чальцамі БЗВ, на якой абмяркоўваліся пытанні патрыятычнага выхавання) заўсёды былі наперадзе (Армия должна быть вне политики// Во славу Родины, 5 жніўня 1992 года). Вынікам стала звальненне лідара БЗВ падпалкоўніка Мікалая Статкевіча з арміі вясной 1993 года.

Шмат намаганняў прэс-цэнтр паклаў для апрацоўкі грамадскай думкі супраць патрыятычнай прысягі, арганізаванай БНФ і БЗВ на плошчы Незалежнасці 8 верасня 1992 года. У спецыяльнай міністэрскай заяве, якая не магла прайсці міма Замяталіна, ініцыятары прысягі абвінавачваліся ў расколе грамадства.

Найбольш жорсткую заяву прэс-цэнтр распаўсюдзіў у ліпені 1993 года, калі Першы з'езд беларусаў свету (Мінск, 8–10 ліпеня) прыняў рэзалюцыю, датычную Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. У ёй крытыкавалася афіцыйная армейская палітыка, выказвалася абуранасць цкаваннем вайскоўцаў-патрыётаў. Ведамства Замяталіна дало адказ: «По военному вопросу съезд пошёл на поводу у кучки экстремистов, противопоставляющих Вооружённые Силы белорусскому народу. Заявление съезда — политически истрёпанная фразеология БЗВ о преследовании в войсках».

Пры гэтым сам Замяталін яўна імкнуўся не «свяціцца»: на працягу 1992–1993 гадоў у газе-

це «Во славу Родины» адсутнічае яго прозвішча, як і хоць нейкае інтэрв'ю. Нічога невядома ні пра структуру цэнтра, ні пра ягоных супрацоўнікаў.

Аднак на шырокай публіцы Уладзімір Пятровіч з'явіцца ўсё ж мусіў.

## Побач з Кебічам

Нумар «Во славу Родины», які выйшаў 11 лютага 1994 года, абяцаў быць непрыкметным, аднак усё змяніла інтэрв'ю з прэс-сакратаром старшыні Савета Міністраў. Ім стаў Уладзімір Замяталін. Чытачы газеты і грамадзяне, бадай, упершыню даведаліся, хто кіраваў армейскім прэс-цэнтрам. Адказваючы на пытанне, навошта Кебічу прэс-сакратар, Замяталін сцвярджаў, што для своечасовай падачы інфармацыі, наладжвання лепшай камунікацыі выканаўчай улады і насельніцтва. Па словах Замяталіна, з Кебічам яго звёў выпадак, потым, ён, Замяталін, выканаў некалькі даручэнняў кіраўніка ўрада — і ў выніку паступіла прапанова.

Замяталін рашуча асудзіў пазіцыю, паводле якой чалавек з вайсковым мінулым не пацягне працу прэс-сакратара. Калі б, казаў Замяталін, у свой час Пецярбургская кансерваторыя не прыняла паручніка Рымскага-Корсакава, то свет страціў бы геніяльнага музыканта. Без усялякага сумневу, Уладзімір Пятровіч даваў зразумець, што ён — самая ўдалая кандыдатура, якая, акрамя неабходных адміністрацыйных і дзелавых якасцяў, мае і вялікі прагнастычны патэнцыял.

Сваё крэда агучыў Замяталін і конт журналістыкі: «Многих проблем в освещении событий и фактов могло бы и не быть, если бы журналисты присягали нести людям правду, подобно врачам, дающим клятву Гиппократа. Когда же журналистика тесно переплетается с политикой, обслуживает её, то ничего хорошего ждать не приходится». Каментараў, падаецца, не патрабуецца.

Каб зразумець сённяшні моўны ўчынак Замяталіна ў «Еўраопце», дастаткова звярнуцца да яго слоў з таго інтэрв'ю: «Языковыми красивостями у нас действительно некоторые овладели в мгновение ока. Такую бы прыть — да в конкретные практические дела. Считаю, в Беларуси проблема отчасти надуманна, искусственно поддерживается новоиспеченными национал-патриотами».

Перад прэс-сакратаром Кебіча стаяла некалькі задач. Па-першае, максімальна магчымае педаляванне ідэі эканамічнага і фінансавага саюза з Расіяй. Замяталін упарта даводзіў, што альтэрнатыва саюзу з Расіяй толькі адна — галеча і гістарычная адсталасць. У інтэрв'ю СМІ 1 сакавіка 1994 года ён назваў «Выбор России» і «гайдаровский блок», а таксама іх «заокеанских хозяев» галоўнымі ворагамі беларуска-расійскай інтэграцыі. Калі ж Дагавор аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі ўсё ж быў падпісаны 12 красавіка 1994 года, то прасаўмінаўскія выданні, у прыватнасці, «Белорусская нива» абвясцілі гэта «победой здравого смысла».

Па-другое, барацьба з незалежнымі СМІ. Дзякуючы Замяталіну быў прыпынены друк «Навінаў БНФ», віцебскай газеты «Выбар». 28 мая 1994 года не выйшлі ў эфір незалежныя радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» і «Крыніца». 30 мая 1994 года была апублікавана афіцыйная заява Замяталіна, ад пачатку і да канца накіраваная супраць газеты «Свабода». Выданне, сцвярджалася ў заяве, займаецца шальмаваннем дзяржаўных асоб, правакуе журналістаў на супрацьзаконныя дзеянні, і ўвогуле з'яўляецца «политическим наконечником национал-экстремизма в республике». У выніку Дом друку адмовіўся аказваць «Свабодзе» адпаведныя паслугі з 1 чэрвеня.

Па-трэцяе, дыскрэдытацыя канкурэнтаў прэм'ер-міністра падчас прэзідэнцкай кампаніі. З аднаго боку, гэта былі Зянон Пазьняк і Станіслаў Шушкевіч, паміж якімі Замяталін не бачыў вялікай розніцы і наклейваў на іх знаёмыя ярлыкі русафобаў. У канцы красавіка 1994 года прэс-сакратар ініцыятыўнай групы Шушкевіча Юрый Рабчук жорстка заявіў: «Калі спадар Замяталін арыентуецца на крытэрыі таталітарных рэжымаў з іх традыцыямі падаўлення любой свабоднай думкі, то гэта, відаць, характарызуе яго ўзровень мыслення і ўласныя ідэалы, сфарміраваныя шматгадовай дзейнасцю вайсковага функцыянера камуністычнай прапаганды».

З другога боку наступаў дэпутат Лукашэнка, які ўзначаліў у Вярхоўным Савеце часовую камісію па вывучэнні дзейнасці камерцыйных структураў пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання. Замяталін, напрыклад, мусіў адрэагаваць на публікацыю ў «Звяздзе» ад 24 сакавіка 1994 года матэрыялу пад назвай «Што ў чамаданах Лукашэнкі?», дзе ў карупцыі агулам абвінавачваліся намеснікі Кебіча Брыль і Касцікаў, міністр абароны Казлоўскі, міністр замежных спраў Краўчанка і іншыя. У вячэрнім эфіры «Панарамы» 28 сакавіка 1994 года Замяталін закідаў Лукашэнку непрымальныя метады палітычнай барацьбы і параўнаў яго з вядомымі антыкарупцыянерамі позняй перабудовы Гдлянам і Івановым, якія, па словах прэс-сакратара, больш працавалі пры дапамозе псіхалагічнага ціску. Карупцыя будзе квітнець заўсёды, казаў Замяталін, калі злачынцаў будуць вызначаць такія, як Лукашэнка, а не суд.

Аднак сам Уладзімір Пятровіч, нягледзячы на правал «галандскай качкі», раз і назаўсёды звedaў смак правакацыі і адмовіцца ад яе быў не ў стане. Маецца на ўвазе знакаміты тэлесюжэт на беларускім тэлебачанні ўвечары 22 чэрвеня 1994 года, у якім нейкая сцюардэса, што ляцела з урадавай дэлегацыяй у Кітай у 1992 годзе, заявіла, што тады ў самалёце зніклі яе асабістыя рэчы, знойдзеныя неўзабаве ў... дэпутата Лукашэнкі. Таму тэлевізійная гераіня заклікала не галасаваць за гэтага кандыдата ў прэзідэнты.

Пасля першага туру выбараў каманда Кебіча і Замяталін былі ў шоку. Толькі ў пачатку ліпеня была агучана асцярожная заява прэс-сакратара пра тое, што перадвыбарчая каманда прэм'ер-міністра істотна абноўлена. Сам Уладзімір Пятровіч цвёрда адмаўляўся ад усялякіх інтэрв'ю. Калі «Свободные новости» запрасілі Замяталіна на сустрэчу, ён адкамандзіраваў туды актывіста каманды Кебіча, палкоўніка Васіля Баранава.

Але ж Замяталін не быў бы самім сабою, калі б не зрабіў спробу стварыць запасную пляцоўку. 5 ліпеня 1994 года нумар «Советской Белоруссии» выйшаў з дзіўнымі метамарфозамі на першай старонцы, дзе былі размешчаны два фотаздымкі: на адным — Кебіч і кіраўнік расійскага ўрада Віктар Чарнамырдзін, на другім — Лукашэнка і Чарнамырдзін на сталічнай плошчы Перамогі 3 ліпеня 1994 года. Аднак сутнасць фотаздымкаў не адпавядала подпісам пад імі. Подпіс пад фотаздымкам, на якім былі Лукашэнка і Чарнамырдзін, гучаў так: «Во время подписания протокола» (маецца на ўвазе падпісаны ў Заслаўі Пратакол аб рэалізацыі Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі ад 12 красавіка 1994 года). А другі здымак «звёў» Кебіча і Чарнамырдзіна на плошчы Перамогі.

Такія кульбіты выдання сталі адной з тэмаў на тэледэбатах кандыдатаў у прэзідэнты 7 ліпеня 1994 года. Калі Лукашэнка спытаў, ці не падыгрывае яму «Советская Белоруссия» з гэтымі фотаздымкамі, Кебіч шчыра прызнаў: газета пасля другога тура «переметнулась». Калі Лукашэнка канчаткова здабыў перамогу 10 ліпеня, Замяталін зрабіў вельмі недвухсэнсоўную заяву, што падпісанне Белавежскага пагаднення і развал СССР не далі аніякіх шанцаў Кебічу і Шушкевічу стаць кіраўнікамі Беларусі.




**Сустрэчы 3 ліпеня 1994 года. Подпісы не адпавядаюць зместу фатаграфій. Памыліцца такой газеце пры наяўнасці вялікай колькасці карэктараў і рэдактараў было проста немагчыма.** Крыніца: Советская Белоруссия, ліпень 1994 года

## Беларускія горкі

Далейшы лёс прапагандыста апынуўся цалкам залежным ад Лукашэнкі і ўяўляў сабой рух па крутых беларускіх горках. Кіраўнік краіны ўсё ж вырашыў выкарыстаць Замяталіна. У сакавіку 1995 года Замяталіна прызначылі начальнікам упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі прэзідэнцкай адміністрацыі (яго папярэднік Аляксандр Фядута сышоў у адстаўку ў студзені ў сувязі з забаронай публікацыі ў шэрагу дзяржаўных СМІ антыкарупцыйнага даклада дэпутата Сяргея Антончыка). Замяталін тлумачыў сваё прызначэнне непазбежнай логікай беларуска-расійскай інтэграцыі.

А 15 ліпеня Замяталін стаў намеснікам кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі — шчырая падзяка Лукашэнкі за вынікі рэферэндуму 14 мая.

Замяталін падказаў Лукашэнку ідэю замены школьных падручнікаў па гуманітарных дысцыплінах і адчыніў для сябе новы накірунак — знешнепалітычны. 15 кастрычніка 1995 года ён прысутнічаў у якасці назіральніка на рэферэндуме ў Іраку: Садам жадаў прадоўжыць свае паўнамоцтвы яшчэ на сем гадоў. Па словах Замяталіна, размова з іракскім бокам ішла пра эканамічнае супрацоўніцтва.

15 студзеня 1996 года асобным указам Замяталіна зноў прызначылі намеснікам кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі, аднак ён страціў пасаду начальніка ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі. У бытнасць Замяталіна на гэтай пасадзе, акрамя ціску на незалежную прэсу, варта прыгадаць і дзве яго гучныя ініцыятывы. Адна — збор інфармацыі аб гуманітарным прафесарска-выкладчыцкім складзе ВНУ, а таксама аб публікацыях, вучоных званнях і ступенях, атрыманых грантах. Асобным пунктам стаяла грамадская дзейнасць і партыйнае сяброўства. Эксперты ўгледзелі ў гэтым першы крок па ўсталяванні ідэалагічнага кантролю над навуковым і навучальным працэсамі.

Другая — абуральны ліст у расійскую Дзярждуму ў канцы 1996 года, звязаны з публікацыяй «Комсомольской правдой» артыкула «Банька для Лукашенко». Аўтар Ігар Сінякевіч назваў беларускага кіраўніка «политическим Франкенштейном, созданным Кебичем». Сінякевіч апісваў прагу Лукашэнкі да лазні, куды апошні хадзіў заўсёды, калі быў на малой радзіме (карэспандэнт сустракаўся з мясцовым жыхаром Аляксеем Грачовым). Журналіст адзначаў, што для будучага беларускага правадыра «шкловская баня была своеобразным полигоном идей, как мюнхенские пивные были питательной средой другого суперпопулиста».

23 студзеня 1997 года кар'ера Замяталіна пайшла ўніз. Яго прызначылі старшынёй Дзяржаўнага камітэта па друку, замяніўшы на гэтай пасадзе Уладзіміра Бельскага. Новае прызначэнне Замяталін назваў «горизонтальным перемещением, когда речь идёт о качестве кадров». Уладзімір Пятровіч прапанаваў звыш дваццаці паправак у тагачасны закон аб друку і СМІ: амаль усе яны былі прынятыя ў другім чытанні ў кастрычніку 1997 года і студзені 1998 года набылі моц. Сярод іх — забарона звестак, якія ганьбяць гонар і годнасць кіраўніка дзяржавы; абавязковая рэгістрацыя ў якасці СМІ любой друкаванай прадукцыі накладам звыш 299 асобнікаў (раней можна было друкаваць без рэгістрацыі да 500 асобнікаў); забарона «искажения» афіцыйнай мовы — уводзілася табу на «тарашкевіцу» — і гэтак далей.

На пасадзе Замяталін прабыў да ліпеня 1997-га, калі быў прызначаны намеснікам прэм'ер-міністра (па адукацыі, культуры і навуцы). І, нарэшце, з 19 чэрвеня 2000 года ён вярнуўся ў прэзідэнцкую адміністрацыю ў якасці першага намесніка кіраўніка. Логіка Лукашэнкі была зразумелая. Трэба было правесці першыя выбары ў Палату прадстаўнікоў (кастрычнік 2000 года) і чарговую прэзідэнцкую кампанію, у рамках якой Замяталін курыраваў арганізацыю другога Усебеларускага народнага сходу.

У жніўні 2001-га Замяталін сустрэўся з журналісткай Людмілай Маслюковай (адпаведнае інтэрв'ю «Режиссёры и сценаристы» было надрукавана ў «Гродзенскай праўдзе»). Абодва пярэкруты (Маслюкова спачатку працавала на Кебіча, потым — на Лукашэнку, затым перайшла ў апазіцыйную «Народную волю», пасля зноў вярнулася пад уладнае крыло) выдатна разумелі адзін аднаго. Гаворка ішла пра паралельны падлік галасоў, які нібыта ажыццяўляюць «купленные политические диджеи». А гэта — непасрэдны шлях да «каляровых» рэвалюцый. Замяталін рашуча заявіў, што нічога падобнага ў Беларусі ніколі не будзе.

12 верасня 2001 года, усяго праз тры дні пасля сваёй «элегантнай» перамогі, Лукашэнка падпісаў указ аб вызваленні Замяталіна з пасады першага намесніка кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі. Гэта сведчыла пра тое, што афіцыйны беларускі лідар, нягледзячы на шыкоўныя лічбы, быў моцна незадаволены нейкімі аспектамі перадвыбарчай кампаніі.

Фармулёўка ва ўказе («у сувязі з пераводам на іншую працу») азначала, што для Замяталіна як вертыкальныя, так і гарызантальныя перамяшчэнні ва ўладзе скончаныя.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. У друідаў праблемы

У брытанскіх друідаў — прыхільнікаў старажытнай паганскай рэлігіі, — падаецца, пачынаюцца цяжкія часы. Усё праз судовы працэс у Борнмуце, дзе судзілі мужа і жонку, якія жылі па суседстве з сям'ёй друідаў. Апошнія дасталі атачэнне сваімі рытуальнымі цырымоніямі. Асабліва тымі, што праводзяцца штомесяц апоўначы, калі ў небе з'яўляецца поўня. Паводле вераванняў друідаў, гэты час трэба сустракаць біццём у барабаны, што і выклікала канфлікт. У выніку ў адну з такіх начэй суседзі паспрабавалі спыніць той шабаш, — і гэта скончылася трагічна. 50-гадовая кабета, якая стукала ў барабаны, была забітая. Аднак суд стаў на абарону забойцаў. Як вырашыў суддзя, вінаватыя ў здарэнні самі друіды, якія сваімі бубнамі і барабанамі выклікалі нервовы зрыў у суседзяў. Праўда, без пакарання забойцы не засталіся — іх асудзілі на прымусовыя працы і ўмоўныя тэрміны. Што тычыцца руху друідаў, то яго сябры баяцца судовага прэцэдэнту, які дзейнічае ў брытанскім праве. Цяпер са спасылкай на вердыкт у Борнмуце можна будзе лёгка дамагацца забароны любых друідскіх рытуалаў.

**Паводле брытанскай прэсы**

### РАСІЯ. Ці паўстануць «татара-башкіры»?

Новы этнонім «татара-башкір» прапануе ўвесці галоўны этнолаг Расіі, дырэктар Інстытута этналогіі і антрапалогіі РАН Валерый Цішкоў. Праўда, ён не кажа пра аб'яднанне татараў і башкір, а выступае за стварэнне акрамя існуючых этнічных груп яшчэ і трэцяй ідэнтыфікацыі для тых, хто мае дачыненне да абедзвюх з іх. Паводле яго слоў, гэтая навацыя яшчэ дасць магчымасць вырашыць праблему ва ўзаемаадносінах паміж афіцыйнымі Казанню і Уфой. Нагадаем, што ў Башкірыі жыве каля 25 працэнтаў татар, нацыянальна-культурныя патрабаванні якіх не падабаюцца кіраўніцтву рэспублікі. Між тым, грамадскія дзеячы як татараў, так і башкір (за рэдкім выключэннем) выступілі супраць ініцыятывы Цішкова: яны непакояцца, што ў выніку прадстаўнікоў тытульнай нацыі ў рэспубліках стане менш, што дазволіць Маскве актывізаваць палітыку скарачэння правоў аўтаноміі.

**Паводле расійскай прэсы**

### МАЛДОВА. Першы гей Гагаузіі

У Гагаузіі адбыўся першы публічны камінг-аўт. «Хачу вам сказаць сёння, што я гей. Так, мне падабаюцца хлопцы, і заўсёды падабаліся. Бог мяне стварыў такім, нічога ўжо не зрабіць. Так ужо здарылася, што мне важна пра гэта сказаць вам», — напісаў Андрэй Каліогла яшчэ ў сакавіку. Праз месяц яго пост, напэўна, прачыталі ўсе гагаузы, паколькі заява Андрэя стала ў краі ледзь не тэмай нумар адзін. З улікам таго, што Гагаузія — аграрны край, і ў дадатак прарасійскі рэгіён, рэакцыя на словы Каліоглы была адпаведнай. «Скінемся ўсім мястэчкам, прывязем табе з Галандыі сяброўку, а калі адмовішся, адправім у тур па Чачні», — можна прачытаць у каментарах да ягонага паведамлення. І гэта яшчэ гуманны каментар. Хлопца таксама называюць «ганьбай Гагаузіі» і жадаюць яму «зямлі пухам». Пагрозы расправіцца гучаць нават на ўзроўні дэпутатаў. Чым скончыцца гэтае цкаванне, цяжка прагназаваць. Андрэй Каліогла дасюль не пакінуў радзіму, хаця праваабаронцы папярэджваюць: тыя, для каго прадстаўнікі ўлады — аўтарытэт, могуць успрыняць словы дэпутатаў як дазвол на гвалт.

**Паводле малдаўскай прэсы**

### БРАЗІЛІЯ. Першая ледзі выратавала сабаку



Ледзь не першай навінай у Бразіліі на мінулым тыдні стаў гераічны ўчынак жонкі Мішэля Тэмера — часова выконваючага абавязкі прэзідэнта. Яго другая палова, 34-гадовая Марсэла Тэмер, кінулася ў ваду дзеля выратавання свайго сабакі, калі гуляла разам з сынам у садзе прэзідэнцкай рэзідэнцыі. Здавалася, што бразільскае грамадства павінна вітаць паводзіны першай лэдзі. Аднак простыя бразільцы паглядзелі на гэтую гісторыю інакш. Праз тое, што Мішэль Тэмер вельмі непапулярны, усю гісторыю ўспрынялі ў лепшым выпадку іранічна. Бразільскі інтэрнэт перапоўнены допісамі пра тое, што сабака хацеў здзейсніць суіцыд, паколькі яму сорамна мець такога гаспадара, як Тэмер. Да крытыкі ўчынку далучыліся нават актывісты руху абароны жывёл. «Што гэта за сабака, які не ўмее плаваць? Чаму гаспадыня не навучыла яго?» — здзіўляюцца яны. Дасталася Марсэле і за тое, што яе муж на 43 гады старэйшы за жонку. Адным словам, піяр не спрацаваў.

**Паводле французскай прэсы**

# Ёсць у рэвалюцыі пачатак…

Алег НОВІКАЎ




Фота www.skeptimist.livejournal.com

**Пяцьдзясят гадоў таму Францыю напаткаў глыбокі сацыяльны крызіс, вядомы ў гісторыі як «травень 1968-га». Гледзячы па артыкулах, прысвечаных юбілею, цалкам магчыма, што мы дасюль застаёмся закладнікамі тых падзей.**

«Францыя спіць» — так называўся артыкул у газеце «Le Monde», якая выйшла прыкладна за паўтара месяцы да падзей 1968-га. Аўтар тэксту непакоіўся, што французская моладзь занадта кансерватыўная на фоне сваіх аднагодкаў, якія бунтуюць у ЗША і Германіі. Як гаворыцца, сурочыў. Літаральна праз месяц краіна была ахопленая студэнцкімі выступамі: уверцюрай да барыкадных баёў, усеагульнага страйку, урадавага крызісу, які ледзь не прывёў да адстаўкі Шарля дэ Голя. Хоць у выніку французскі прэзідэнт змог лакалізаваць пратэсты, эфект тых падзей апынуўся значна больш глабальным.

Нездарма, на думку выдання «Libération», менавіта пад пяцідзесяцігоддзе траўня 1968-га прэзідэнт Эмануэль Макрон запусціў пакет неаліберальных эканамічных рэформаў. Як піша газета, адміністрацыя Макрона, што правяла непапулярныя рэформы, мае намер дэманстратыўна скончыць з калектыўнай памяццю французаў пра «Чырвоны травень» (так часта называюць падзеі ў траўні 1968-га).

Памяць пра тое, што ў той час дзяды здолелі дамагчыся павышэння заробку ў сярэднім на 20 працэнтаў, да гэтага часу матывуе іх дзяцей і ўнукаў выходзіць на вуліцы. «Травень 1968-га. Можам паўтарыць!» — напісана на транспарантах удзельнікаў цяперашніх забастовак. А вось сярод бізнесу тыя падзеі — трагедыя. Наступствы тагачаснай перамогі працы над капіталам Францыя расхлёбвае да гэтага часу.

Тым цікавей чытаць шэраг публікацый, дзе сцвярджаецца, што «Чырвоны травень» па сваёй прыродзе не быў левым рухам. Хаця на барыкадах луналі чорныя і чырвоныя сцягі, па сваёй сутнасці гэта была маніфестацыя індывідуалізму і геданізму. Калі б зараз пачалося нешта падобнае, дык прэса стопрацэнтна б напісала пра бунт мажораў. Такі складнік пратэстаў, як індывідуалізм і антыаўтарытарызм, руйнаваў арганізацыйны прынцып левага руху, дзе асоба заўсёды падпарадкаваная інтарэсам калектыву. Невыпадкова пасля 1968 года мы назіраем працэсы эрозіі традыцыйных левых партый і прафсаюзаў. У гэтым плане агучваецца нават арыгінальны тэзіс, што без траўня 1968-га і наступнага паслаблення левых сіл да ўлады ніколі б не дарваліся такія заўзятыя антыкамуністы, як Рональд Рэйган і Маргарэт Тэтчэр.

Яшчэ далей ідуць расійскія СМІ. Там лічаць, што травень 1968-га быў ледзьве не першым Майданам у гісторыі. Нібыта ЦРУ мела зуб на Шарля дэ Голя, які марыў вярнуць Францыі статус вялікай сусветнай дзяржавы. Рэалізуючы свой план, генерал выставіў штаб NATO з Парыжу і наіўна намагаўся абмяняць долары на золата, што было нахабным выклікам на адрас Брэтан-Вудскай сістэмы. У выніку за акіянам, нібыта, вырашылі інспіраваць студэнцкія пратэсты. Версія, мякка кажучы, супярэчлівая — асабліва з улікам таго, што выступы студэнтаў мелі яскравы антыамерыканскі акцэнт праз вайну ва В'етнаме. З іншага боку, сапраўды, шмат хто (напрыклад, славуты журналісты Рэжы Дэбрэ) лічыць, што 1968-ы стаў пачаткам культурнай амерыканізацыі Еўропы, якая мела з часам і палітычныя наступствы.

Зрэшты, самі правыя, як і раней, крытычна ацэньваюць 1968-мы. Для іх бунт 50-гадовай даўніны застаецца пачаткам маральнай дэградацыі Захаду. «У фрэйдысцкім сэнсе ў траўні 1968-га быў забіты Бацька-аўтарытэт (чытай, таксама павага да дзяржавы), што адчыніла шлях да цяперашняга ўзўлення жыцця як гульні і некантраляванага дыктату глабальных фінансавых цэнтраў», — піша «Asian Times». Газета таксама адзначае, што ў 1968-м была знішчаная ўся архаічная мадэль адукацыі, на якой трымалася сістэма. «Студэнты і вучні адкінулі старую дысцыпліну, якая арыентавалася на вертыкальную перадачу ведаў і каштоўнасцяў ад генерацыі да генерацыі. Аднак гэта было супярэчлівым крокам, паколькі найбольш важным у адукацыі сталі не веды, а эмансіпацыя і крытычная думка», — піша газета.

Праўда, нават крытыкі «Чырвонага траўня» не адмаўляюць яго ўплыву на цяперашні паўсядзённы свет. «Усе мы — дзеці траўня 1968-га», — канстатуе ўсё той жа «Asian Times».

Сапраўды, нельга адмаўляць, што 1968 год стаў інтэлектуальным ферментам, які змяніў усе старыя коды і стандарты. На гэты юбілей былі выкрытыя новыя рэцыдывы 1968-га. Напрыклад, той год дапамог дэмакратызаваць свет моды. Да тых часоў еўрапейцы галоўным чынам замаўлялі сабе гарнітуры ў атэлье, якія, у сваю чаргу, арыентаваліся на заможных буржуа. Трыумф вуліцы ў 1968 годзе дэмакратызаваў густы. Цяпер людзі былі гатовыя без комплексаў апранацца ў крамах гатовага адзення — так званых «prêt-à-porter». Менавіта тады былі закладзены падмурак з'яўлення цяперашніх папулярных брэндаў, вопратку якіх мы набываем падчас шопінгаў.

Таксама ледзь не ўпершыню на гэты юбілей было ўзнятае пытанне ўплыву траўня 1968-га на грамаду мігрантаў-мусульманаў. Пішуць, што праз «Чырвоны травень» Францыя і Еўропа праспалі праблему міграцыі. Пакуль філосафы, накшталт Мішэля Фуко, дыскутавалі пра антыаўтарытарную свядомасць, у эміграцкім гета сфармаваўся дыскурс, варожы заходняму і дэмакратычнаму грамадству.

У велізарным масіве цяперашніх матэрыялаў пра травень 1968 года да гэтага часу няма адказу на галоўнае пытанне: дзе крыніцы паўстання? Як і раней, многія спрабуюць шукаць іх у сацыяльна-эканамічных фактарах і праблемах сацыялізацыі дзяцей пасляваеннага бэбі-буму.

Аднак бунт 1968-га не падобны на іншыя праз тое, што ставіў больш глабальныя пытанні. «Чаму вялізныя масы тады ахапіла незвычайнае адчуванне — жаданне выйсці са звыклай каляіны гісторыі і стварыць нешта сапраўды новае? Ці быў гэты ўтапічны імпульс, як часта абвінавачвалі рэлігійныя і палітычныя кансерватары, наіўным і небяспечным сном? У любым выпадку, сённяшнія мары чалавецтва здаюцца значна больш сціплымі і абарончымі па сваёй прыродзе — спыніць войны, вырашыць праблему голаду, стрымліваць эпідэміі, прадухіліць разбурэнне планеты з-за глабальнага пацяплення», — вызнае «New York Times».

Рэбус 1968-га да гэтага часу не вырашаны. Зрэшты, можа, гэта і лагічна, паколькі сам рух, магчыма, яшчэ не скончыўся. У французскай мове ёсць фраза «les années soixante-huit», якую можна перавесці як «гады 68-га». Раней лічылася, што «гады 68-га» скончыліся, калі прэзідэнтам у 1981-м быў абраны сацыяліст Франсуа Мітэран. Аднак цяпер усё часцей кажуць, што гэтая выснова, магчыма, была памылковай. Цяперашнія апытанні паказваюць — 52% французаў хацелі б паўтору падзей траўня 1968 года.



Фота www.rada5.com

# Украіна: комік або спявак?

Алег НОВІКАЎ

**Апошнія сацыялагічныя даследаванні ва Украіне дазваляюць усур'ёз разглядаць сцэнар, калі прэзідэнтам дзяржавы па выніках выбараў у наступным годзе стане шоўмэн. Не выключаны варыянт, што ў другім туры выбараў будуць змагацца комік і спявак.**

Падчас апошняга выпуску папулярнага ва Украіне шоў «Вечерний квартал» яго вядучы Уладзімір Зяленскі пажартаваў з нагоды свайго і Святаслава Вакарчука (фронтмэн гурта «Океан Ельзи») удзелу ў выбарах. На сцэне муж і жонка вядуць наступны дыялог: «Сустракаюцца Вакарчук і Зяленскі… У другім туры. Адзін другому кажа: «Вось я стану прэзідэнтам, а ты ў мяне на інаўгурацыі выступаць будзеш». А той яму адказвае: «Не, гэта я стану прэзідэнтам, а ты ў мяне будзеш выступаць».

У гэтым жарце прысутнічае элемент праўды. Вынікі апошняга апытання саліднага Кіеўскага міжнароднага інстытута сацыялогіі (КМІС) выявілі некалькі сенсацыйных тэндэнцый — найбольш пазітыўныя ацэнкі ва Украіне імкліва атрымліваюць эстрадныя фігуры. Гаворка пра ўсё таго ж камічнага акцёра Уладзіміра Зяленскага і рок-музыку Святаслава Вакарчука.

Больш за тое, у спіну Вакарчуку і Зяленскаму дыхае бізнесовец Вадзім Рабіновіч, які зрабіў сабе імя як ды-джэй праграмы, дзе ахвотна распавядае адэскія анекдоты. Таксама ў групе лідараў — кіраўнік Радыкальнай партыі Алег Ляшко, які мае сталы імідж палітычнага клоўна. То бок, за выключэннем Юліі Цімашэнка, топ украінскіх палітычных лідараў нагадвае цырк-шапіто.

Сацыёлагі хутка знайшлі прычыну такога феномена. На іх думку, ва Украіне назіраецца пэўны крызіс палітычнай сістэмы, дзе доўгі час усё вырашылі грошы і купленыя СМІ. І раптам высвятляецца, што такая схема не працуе. Людзям патрэбныя новыя твары. Ва ўмовах дэфіцыту новых праўдыроў расце народны давер да зусім не чаканых кандыдатаў, паколькі яны — пры ўсёй экстравагантнасці — выглядаюць больш сумленнымі за палітыкаў.

Прычым запыт на новых палітыкаў такі моцны, што палітолагі дапускаюць варыянт, калі Вакарчук і Зяленскі сапраўды сустрэнуцца ў другім туры. «Магчымасць такога сцэнару складае каля 30 працэнтаў», — кажа вядомы ўкраінскі палітолаг Руслан Бортнік. Адначасова ў выданні «Дзеркало Тиждня» пішуць, што сацыёлагі ўжо нават змадэлявалі дуэль Вакарчук — Зяленскі ў другім туры прэзідэнцкіх выбараў. У такім выпадку перамагае Зяленскі, аднак з вельмі маленькім адрывам.

А вось палітыкам старой фармацыі яўна не ўтульна ад апошніх навін сацыёлагаў. Яны і афіляваныя з імі медыя актыўна атакуюць Зяленскага і Вакарчука. Звяртаюць увагу на тое, што ані Вакарчук, ані Зяленскі не маюць нейкай палітычнай структуры, а ва ўкраінскіх умовах вельмі важна адсачыць, каб тваё галасы банальна не скралі. Прыгадалі ім і адсутнасць вопыту ў дзяржкіраванні, а таксама папярэднія супярэчлівыя ўчынкі. Напрыклад, гісторыю Вакарчука, які ў свой час паклаў дэпутацкі мандат на стол са словамі: «Палітыка — не маё». Што тычыцца Зяленскага, то яго шоў «95 квартал» прапісана на канале «1+1», які фінансуе алігарх Ігар Каламойскі. То бок, Зяленскі — не аўтаномны кандыдат, і нават можа быць выкарыстаны алігархам для гандлю з іншымі патэнцыяльнымі кандыдатамі ў прэзідэнты.

Самы цікавы тэзіс праціўнікаў палітычнай эстрады наступны: выбар на карысць Вакарчука або Зяленскага — гэта выбар за «Парашэнку нумар два». Маўляў, ані артыст, ані музыка ў выпадку абрання на пасаду прэзідэнта не адмовяцца ад сваёй прафесійнай дзейнасці. Такім жа чынам, як Пётр Парашэнка, калі апынуўся на Банкавай (кіеўская вуліца, дзе знаходзіцца офіс адміністрацыі прэзідэнта), не адмовіўся ад бізнесу.

Аднак пакуль усе піяр-атакі на палітыкаў ад эстрады не маюць асаблівага ККД. Больш за тое, у інфармацыйным полі ўсё больш плётак, што куратарам Вакарчука выступае Захад. Напрыклад, на мінулым тыдні кампілярны тэкст пра коміка і артыста апублікаваў уплывовы амерыканскі часопіс «Bloomberg» з наступным рэзюмэ: «Больш за ўсё ўкраінцы цэняць добры імідж, і таму будуць падтрымліваць тых кандыдатаў, якіх яны лічаць сумленнымі і незалежнымі. Прафесіяналізм і палітычны вопыт кандыдатаў не маюць значэння».

Удзел амерыканскага істэблішменту ў праекце «ўкраінскі Макрон» (такі імідж, падаецца, ствараюць Вакарчуку) тлумачаць тым, што Захад не задавальняе «карупцыйная суверэннасць» украінскай улады. Праўда, іншыя кажуць, што праз хаос у амерыканскай эліце і канфлікт паміж ЕС і ЗША «адзінага кандыдата ад Захаду» на выбарах 2019-га не будзе.

На фоне інтарэсу да Зяленскага і Вакарчука гучаць і асцярожныя рэплікі. Маўляў, мода на артыстаў — не што іншае, як пераход на новы этап папулізму, калі на змену гандлярам ідуць блазны і скамарохі, за якімі стаяць канкрэтныя алігархі. Аднак на такія заўвагі асаблівай увагі не звяртаюць. Большасць гатовая галасаваць за любую альтэрнатыву.

Дарэчы, гэты настрой перадае і згаданая ў пачатку артыкула мініяцюра «Вячэрняга квартала». У выніку спрэчкі муж і жонка прыходзяць да думкі: «Усё роўна, хто будзе на інаўгурацыі прэзідэнтам, Вакарчук або Зяленскі, — галоўнае, каб пасля інаўгурацыі было, як у нас у сям'і: перыяд кветак і цукерак застаўся ў мінулым». Гэта яўны намёк, што Парашэнка, які мае кандытарскі бізнес, прэзідэнтам быць не павінен.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Мухтар Аблязаў



Лідару казахскага руху «Дэмакратычны выбар», забароненага як экстрэмісцкая арганізацыя, удалося амаль немагчымае — падняць хвалю пратэсту ў краіне, дзе амаль цалкам зачышчана палітычнае поле.

Нагадаем, што ў Казахстане на сёння няма ніякай арганізацыйна аформленай апазіцыі. Нейкая пратэстнасць, што існуе ў грамадстве, акумулюецца хіба што ў сацыяльных сетках. І тым не менш па закліку Аблязава (ён жыве ў Францыі) раніцай 10 траўня ў Астане, Алма-Аце і яшчэ чатырох рэгіянальных гарадах людзі сабраліся на несанкцыянаваныя мітынгі. Усе шэсць акцый праходзілі прыкладна па аднолькавым сцэнары: людзі збіраліся ў цэнтры горада з плакатамі з патрабаваннем вызвалення палітвязняў. Затым паліцэйскія і спецназаўцы ў масках усіх хапалі і саджалі ў аўтобусы. Усё адбывалася вельмі хутка — часам на працягу некалькіх хвілін. Відавочцы падзей кажуць пра дзясяткі затрыманых.

Па слядах падзей афіцыёз сцвярджае, што пратэсты не будуць мець далейшых наступстваў і не змогуць паўплываць на палітычнае жыццё Казахстана. Сам жа Аблязаў абяцае новую серыю пратэстных акцый. На думку незалежных каментатараў, узровень пратэсту ў казахскім грамадстве паступова будзе расці, і менавіта Мухтар Аблязаў, які актыўна ўзаемадзейнічае з казахамі праз інтэрнэт і сацыяльныя сеткі, можа стаць казахскім Пашынянам.

### Дональд Трамп



Прэзідэнт ЗША 9 мая падпісаў закон №447. У ім ідзе гаворка пра маёмасць тых, хто памёр, не пакінуўшы пасля сябе нашчадкаў, што, у прыватнасці, закранае ўласнасць яўрэяў, забітых нацыстамі падчас Халакосту.

Цяпер Дзярждэпартамент мае права падтрымліваць арганізацыі, якія займаюцца пытаннямі рэстытуцыі і кампенсацыі страчанай яўрэйскай маёмасці. І гэта выклікала вялікія перасцярогі ў Польшчы. Рэалізацыя закону азначае «іскі аб вяртанні ранейшай уласнасці ахвярам Халакосту і іх спадкаемцам шляхам рэстытуцыі або кампенсацыі». Гаворка ідзе пра суму ў 65 мільярдаў долараў, якую можа патрабаваць ад Польшчы дыяспара яўрэяў. Таксама не выключана, што амерыканскі закон №447 будзе выкарыстоўвацца для прэсінгу, шантажу або ціску на розныя краіны, а не толькі Польшчу.

Ва ўсёй гэтай гісторыі ёсць цікавы нюанс. Варшава можа ігнараваць іскі аб кампенсацыях, спасылаючыся на тое, што ў часы Польскай Народнай Рэспублікі (ПНР) з ЗША быў дасягнуты кампраміс пра кампенсацыю для ахвяр Халакосту. Але цяперашні кансерватыўны ўрад Польшчы лічыць ПНР савецкай марыянеткай, на падставе чаго (у тым ліку) патрабуе кампенсацый ад Берліна (каля 60 мільярдаў долараў) за шкоду, якую нанесла Германія ў часы Другой сусветнай вайны.

### Леанід Волкаў



Кіраўнік федэральнага штаба Аляксея Навальнага паставіў задачу (не больш — не менш!) знішчыць у бліжэйшы час у Расіі манаполію на інфармацыю тэлебачання, якое падкантрольнае Пуціну.

Паводле Волкава, пранікненне інтэрнэту ў Расіі складае больш за 70%, аднак навіны пра палітыку, паводле яго падлікаў, адтуль чэрпаюць усяго 8–10% расіян, то бок толькі некалькі мільёнаў чалавек. «Інтэрнэт — гэта гульні, «Аднакласнікі», відэа, знаёмствы — але не інфармацыя пра навакольны свет», — робіць выснову кіраўнік штаба Навальнага і збіраецца зламаць трэнд за кошт інтэрнэт-акцый, вулічных акцый па актуальных тэмах і, як ні дзіўна, традыцыйных улётак.

Гэтая задача, як лічаць спецыялісты, зусім не выглядае надта фантастычнай. Напрыклад, хаця 71% рэспандэнтаў зараз атрымлівае навіны з тэлебачання, але за апошні год гэтая лічба скарацілася на 7%. А калі паглядзець на трэнд апошніх 5–6 гадоў — то і на ўсе 20%. Іншая справа, што палітычная частка спажыўцоў тэлебачання наўпрост залежыць ад узросту і адукацыі. Сярод самых маладых і найбольш адукаваных яна сапраўды памяншаецца — гэта, адпаведна, 45 і 62% апытаных. Волкаў нават лічыць, што кожны рэгіянальны штаб павінен зрабіць «інфармацыйны канал, які будзе выходзіць за межы палітызаванай тусоўкі».

Застаецца дадаць, што наступныя буйныя выбары ў РФ адбудуцца ў 2021-м. Да гэтага часу Волкаў, напэўна, можа і рэалізаваць свой амбіцыйны план.

# Тэлеграма Кайзеру і Пакт Молатава–Рыбентропа

## Непапулярныя моманты з гісторыі Беларусі

Тацццяна ПРОЦЬКА

**У працэсе святкавання юбілею БНР раз-пораз, як у савецкія часы, гучалі асуджальныя словы афіцыйных ідэолагаў пра тое, што кіраўнікі БНР здрадзілі, паслалі прывітальную тэлеграму Кайзеру. Каму здрадзілі кіраўнікі БНР, на жаль, не агучвалася.**




Паколькі ў свядомасці беларускіх людзей здрада — амаль што не самая адмоўная з'ява, лічу неабходным зрабіць пэўныя ўдакладненні.

Гэтая тэлеграма была своеасаблівым пацверджаннем намераў Урада БНР стаць саюзнікам Германіі пры выкананні ёй умоў, выказаных у мемарыяле, які быў дасланы нямецкаму ўраду 25 сакавіка 1918 года. У мемарыяле, у прыватнасці, вызначалася:

«Калі б беларускае пытанне зацікавіла нямецкую палітыку, то канкрэтна мы б выступілі са свайго боку з ніжэйпададзенымі прапановамі. 1. Мы прасілі б аб прызнанні самастойнасці Беларусі і ўлады ў ёй у асобе Рады і яе калектыўнага Міністэрства. 2. Мы прасілі б усталяванне з мясцовымі нямецкімі ўладамі такіх адносін, пры якіх наш урад мог бы арганізаваць свае сілы для ўстанаўлення сваёй улады ва ўсходняй частцы Беларусі на незанятай бальшавікамі тэрыторыі. 3. Разам з тым, мы настойліва прасілі б аб захаванні Беларусі ў натуральных гістарычных, этнаграфічных і эканамічных межах. Канкрэтна, мы настойліва будзем прасіць аб захаванні за Беларуссю Гродзеншчыны, плыні ракі Прыпяць і горада Вільні. Калі патрабаванні аб першых дзвюх тэрыторыях выклікаюцца меркаваннямі эканамічнымі і этнаграфічным, то адносна горада Вільні мы павінны нагадаць, што гэты горад цяпер — гэта разумовы цэнтр Беларусі, найбольш жыва ўсведамляючы ідэю беларускай дзяржаўнай самастойнасці».

Германія адмовілася ад прапаноў Урада БНР, незалежнасць Беларусі не прызнала, заключыла з савецкай Расіяй Берасцейскую дамову. Тэрыторыя Беларусі стала ў тыя часы «разменнай манетай» для вырашэння як Расіяй, так і Германіяй сваіх праблем, што ўзніклі ў сувязі з Першай сусветнай вайной. Лёс Беларусі вырашылі без удзелу беларусаў — Беларусь у дамове нават не згадваецца.

Пра тое, як жылося пад нямецкай акупацыяй, Урад БНР апісаў у мемарыяле, перададзеным старшыні Мірнай канферэнцыі ў Парыжы 22 студзеня 1919 года. У гэтым дакуменце, у прыватнасці, адзначалася *(асаблівасці правапісу захаваныя)*:


Пролетарии всех стран, соединяйтесь!
Всесоюзная Коммунистическая Партия (больш.)
ПРАВДА
Орган Центрального Комитета и МК ВКП(б).
№ 234 (7918) 24 августа 1939 г., четверг ЦЕНА 10 КОП.
СОВЕТСКО-ГЕРМАНСКИЙ ДОГОВОР О НЕНАПАДЕНИИ

«Справа ў тым, што акупанты ў адносінах да беларускага дзяржаўнага будаўніцтва занялі ад першых дзен акупацыі зусім варожае становішча. Пасля ўваходу да Менску акупацыйныя ўласці аружнай сілай захапілі беларускія дзяржаўныя грошы і гэтых грошай назад не вярнулі. Калі ж Акт 25 марца быў пададзен нямецкаму ўраду, апошні ў афіцыяльным адказе заявіў, што, згодна з Берасьцейскай умовай, пытаньне аб Беларусі ен лічыць унутранай справай Расеі і радзіць беларускаму ураду дайсьці ўгоды з большэвіцкім урадам. Сваю лояльнасьць у адносінах да савецкага ураду Расеі нямецкі урад давеў да таго, што за 9 месяцаў акупацыі зусім не даваў беларускаму ўраду арганізовываць край, не дапускаючы свабоды руху, не даючы карыстацца почтай, тэлеграфам, тэлефонамі і т.д., арыштоўваючы камісараў, якія памыкаліся арганізовываць беларускія акружныя сілы. Усе упраўленьне Беларусьсю аставалася ў нямецкіх руках. Калі ж нямецкія войскі былі прымушаны пакінуць Беларусь, яны ня толькі адмовіліся аддаць цывільнае упраўленьне краем у рукі краевых арганізацый, але і не дапусьцілі арганізацыі краевай міліцыі дзеля абароны народу ад анархіі, нямінучай у мамэнт адыходу акупантаў у мамэнт поўнай неарганізованасьці насяленьня. Тое, што было зроблена немцамі ў Усходняй Беларусі і ў Менску, паўтарылася і ў Заходняй часьцы яе — за лініяй старога фронту. Немцы і тут не далі арганізаваць беларускіх акружных сіл — апоры усялякай уласьці. А ў тым жа самым часе яны падгатаўлялі захват беларускіх зямель з Вільняй, Горадняй, Беластокам суседняй Польшчай: зусім адкрыта, без ніякіх перашкод з нямецкага боку, арганізоўваліся і зброіліся па ўсім крае польскія легіоны, замянiўшыя нямецкую акупацыю і тэрорызуючыя тутэйшае насяленьне».

Як бачым, Урад БНР выкарыстоўваў любыя магчымасці, нават у зусім неспрыяльных умовах, абараніць Беларусь ад іншаземнай навалы.

У жніўні будучага года нас чакае юбілей падзеі, пра якую савецкія гісторыкі доўгія гады наогул нічога не пісалі, і нават як гістарычную падзею не ўзгадвалі. Гэты юбілей — 80 гадоў з моманту падпісання «Дамовы аб ненападзе паміж Германіяй і СССР», які атрымаў назву «Пакта Молатава — Рыбентропа», па прозвішчах тых, хто гэтую дамову падпісаў ад імя сваіх краін.

Найбольш важнай для гісторыі Беларусі з'яўляецца сакрэтная частка пакта, «Сакрэтны дадатковы пратакол»:

«З нагоды падпісання пакта аб ненападзе паміж Германіяй і Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік ніжэйпадпісаныя прадстаўнікі абодвух Бакоў абмеркавалі ў строга канфідэнцыйных гутарках пытанне аб размежаванні іх сфер уплыву ва Усходняй Еўропе. Гэтыя размовы прывялі да пагаднення ў наступным:

1. У выпадку тэрытарыяльных і палітычных пераўтварэнняў у абласцях, якія належаць прыбалтыйскім дзяржавам (Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі, Літве), паўночная мяжа Літвы будзе з'яўляцца рысай, якая падзяляе сферы ўплыву Германіі і СССР. У гэтай сувязі зацікаўленасць Літвы ў раёне Вільні прызнана абодвума Бакамі.
2. У выпадку тэрытарыяльных і палітычных пераўтварэнняў у абласцях, якія належаць Польскай дзяржаве, сферы ўплыву Германіі і СССР будуць размежаваныя прыблізна па лініі рэк Нараў, Вісла і Сан.
   Пытанне аб тым, ці пажадана ў інтарэсах абодвух Бакоў захаванне незалежнасці Польскай дзяржавы і аб межах такой дзяржавы, будзе канчаткова вырашанае толькі ходам будучых палітычных падзей.
   У любым выпадку абодва Урады вырашаць гэта пытанне шляхам сяброўскай згоды.
3. Што да Паўднёва-Усходняй Еўропы, Савецкі бок выказаў сваю зацікаўленасць у Бесарабіі. Германскі бок ясна заявіў аб поўнай палітычнай незацікаўленасці ў гэтых тэрыторыях.
4. Дадзены пратакол разглядаецца абедзвюма Бакамі як строга сакрэтны».

Цікава параўнаць гэтыя дакументы — мемарыялы і пакт. У выпадку з мемарыяламі БНР зварот да Германіі — вымушаная, але неабходная мера як для захавання беларускай ідэнтычнасці, так і для ўмацавання створанай беларускай дзяржавы. Немцаў урадаўцы публічна называюць акупантамі і вызначаюць акупацыйную палітыку Германіі як антыбеларускую, накіраваную супраць станаўлення беларускай дзяржаўнасці.

У пакце, як і пры заключэнні Берасцейскага міру, Беларусь не згадваецца, яе інтарэсы быццам наогул не існуюць. Германія — на гэты час ужо фашысцкая і нацысцкая — разглядаецца як важны саюзнік у вызначэнні сфер уплыву СССР і Германіі ў свеце. І хоць у выніку пакта Молатава — Рыбентропа ў склад Беларусі вярнулася частка раней адабраных заходніх зямель, аб вяртанні якіх марылі ўрадаўцы, падаецца, што ў гэтым выпадку мела месца сапраўдная здрада.

Маю надзею, што абурэнне пактам Молатава — Рыбентропа, які фактычна даў «зялёнае святло» пачатку Другой сусветнай вайны, будзе ў наступным годзе належным чынам прадэманстраванае на ўсіх узроўнях беларускай ідэалагічнай машыны.

# Як Баторый вучыў нашых продкаў ваяваць і піць віно

Алесь КІРКЕВІЧ

**Часы Рэчы Паспалітай зазвычай асацыююцца з такімі алкагольнымі напоямі, як медавуха, піва ці старка. А што наконт віна? Хто яго піў, з якога часу, і як каралі нашай колішняй дзяржавы на гэта ўплывалі?**

Каб разабрацца, мы вырашылі даць слова не прафесійнаму гісторыку, але... прафесійнаму самільне **Аляксандру Кульбачку**, арт-дырэктару віннага бару «Хороший год» у Мінску ды лепшаму самільле Беларусі за 2017 год. Менавіта ягоны расповед ды інтэрпрэтацыя — жывыя ды цікавыя.

Віно на нашых землях вядомае здаўна, як мінімум, з часоў Русі. Тады да нас траплялі амфары з тэрыторыі Візантыі, каб пасля быць пералітымі ў царкоўныя пацiры для прычасця альбо ў княжацкія келіхі — для насалоды. Паспаліты тагачасны жыхар Турава ці Менску, зразумела, паспрабаваць смак віна мог адно на нядзельных набажэнствах...

З часам віно перабралася з княжацкіх сталоў на каралеўскія, застаючыся пазнакай высокага статусу. Гэта быў імпартны прадукт, а значыць — толькі для абраных, першых асобаў дзяржавы. Іншыя пілі ўслед за каралём, каб быць да яго падобнымі — часам, не разбіраючы смакаў і гатункаў... Але пачнём з першага манарха Рэчы Паспалітай, які зрабіў з віна нават не статусны напой, а сапраўдны культ.

## Баторый: кроў і віно

Як вядома, Баторый быў вугорцам, які нарадзіўся на тэрыторыі сучаснай Румыніі, ды з'яўляўся далёкім сваяком Улада Цэпеша, знанага як граф Дракула. Бацькаўшчына Баторыя вяла на той момант вайну з туркамі, якой не было бачна канца і краю, таму малады Стэфан выхоўваўся ў спартанскіх умовах як будучы ваяр. Важна, што ваяр — гэта не толькі «баявая машына», гатовая спаць на зямлі ці скакаць дзень і ноч, але яшчэ і... моцна пітушчая «баявая машына».

Чаму? Не толькі, каб здымаць стрэс ды зблiжацца з калектывам, не. Віно, як ні парадаксальна, гэта яшчэ і маркер хрысціянскага ваяра, азнака іншасці. Туркам паводле рэлігіі піць было забаронена, хрысціянам — можна. Гэту вінную і ваярскую традыцыю Баторый добра засвоіў з маладых гадоў і, відаць, толькі падмацаваў за часамі вучобы ў Падуанскім універсітэце, вядомым не толькі акадэмічнымі традыцыямі, але і студэнцкімі застоллямі.



Стэфан Баторый прымае капітуляцыю маскавітаў пад Псковам

У 1576-м, на момант абрання каралём Рэчы Паспалітай і вялікім князем літоўскім, Баторыю было 43 гады. Ён — прафесійны ваяр, лідар, асвечаны арыстакрат з дасканалым веданнем лацiны і... алкаголік. З сабой, апроч 1200 вугорскіх вершнікаў, ён прывёз таксама бочкі з віном, якое нагадвала пра радзіму. Што тое былі за гатункі? Чырвонае — эгерскае віно, а таксама белае — такайскае. Апошняе робіцца са светлага вінаграду, які пачынае падвяльвацца яшчэ ў гронках, на кусце, смак атрымліваецца дужа салодкі.

Мы памятаем, што Баторый адбіў расійскую навалу і перамог у Лівонскай вайне: Іван Жахлівы прасіў міру, Лівонія стала пратэктаратам Рэчы Паспалітай, а ўсходнія беларускія гарады вярнуліся ў дзяржаву. Так Баторый стаў максімальна папулярным сярод шляхты, кожны хацеў капіяваць паспяховага лідара. Шабля-баторaўка, вугорская гусарыя, мода на сармацкі касцюм — усё гэта перацякло ў шляхецкі побыт.



А яшчэ кароль піў віно... І тут пачалося неймавернае: шляхта і магнаты не проста перайшлі на віно, але пачалі піць менавіта такайскае, з «каралеўскіх мясцiнаў». Спачатку замаўлялі бочкі купцам, пасля — ездзілі самі, пазней — замаўлялі віно як сыравіну з яшчэ не спелых гронак, урэшце — пачалі скупляць зямлю і вінаграднікі ў самім Такаі. Карацей, масавая істэрыя!

Будзем шчырымі, тагачаснае віно — гэта не зусім тое, што мы маем зараз. І нават не тое, што Баторый мог піць у сябе на радзіме. Сам працэс транспарціроўкі — гэта вялікія рызыкі псавання тавару, таму да пункту прызначэння віно прыходзіла ўжо моцна падсаложаным альбо разбаўленым спіртам: наўпрост, каб дарогу вытрымала. Таму... нават добры напой на фінішы мог пераўтварыцца ў салодкую п'янячую вадкасць. Але галоўным, відаць, быў зусім не смак віна, але смак раскошы і набліжанасці да каралеўскага стала.



Пасля дзесяці гадоў праўлення Баторый памёр у Гродне, рыхтуючыся да чарговага паходу на Масковію. У пакоях памерлага знайшлі срэбны сервіз, які суправаджаў караля ў паходах: на месцы адсутных лыжак ці відэльцаў пазнакі —«Згублена пад Полацкам» альбо «Згублена пад Псковам». У шафах — пара футраў, на адным з якіх залатыя гузікі. У стайні 31 баявы конь і... 2 вярблюды. Вось, бадай, і ўсё, чым асабіста валодаў кароль, які кантраляваў велічэзную тэрыторыю ва Усходняй Еўропе.

Чакайце, не! Быў жа яшчэ склеп. І там, канешне, самае цікавае: 51 бочка віна! Каб уявіць аб'ём, трэба ведаць, што бочка — гэта ад 225 да 450 літраў. Дагэтуль аб'ём у 225 літраў — гэта самая малая вінная бочка. А больш за 450 у тыя часы рабіць не было сэнсу, бо транспарціроўка была нерэальнай. Што сталася з гэтым багаццем? Мы не ведаем. Магчыма, усё было выпіта на добры ўспамін аб памерлым: кароль гэтага заслугоўваў. Дарэчы, сама мода на такайскае віно шматкроць перажыла Баторыя і пратрымалася ажно да скону Рэчы Паспалітай.

**Ян Сабескі ў нашай алкагольнай гісторыі, мабыць, герой не менш заслужаны за Баторыя. За часамі Сабескага ў нас з'явіўся ўжо цэлы калейдаскоп гатункаў. У дадатак да бардо, шампанскага і аўстрыйскага віна — яшчэ і прадукт з-над Рэйну ды іншых рэгіёнаў Еўропы**

## Жыгімонт III: кожнаму шынку — па вянку!

Наступны кароль, Жыгімонт III Ваза, які паходзіў са Швецыі, не быў заўважаны ў алкагалізме, затое запомніўся нарматыўнымі актамі адносна шынкоў і корчмаў. Менавіта ён, са скандынаўскай педантычнасцю, развёў вінныя і піўныя «падвалы», як тады ў дакументах называліся пітныя ўстановы. Гэта рацыянальна, бо здымаўся момант класавага канфлікту, а ў дадатак уладальнікам вінных «падвалаў», куды прыходзіла больш элітная публіка, можна было даваць лепшыя месцы, а значыць — і браць з іх болей.

А яшчэ Жыгімонт увёў сістэму апазнавальных знакаў для рознага алкаголю. Сімвал віна — вянок, але і тут не ўсё проста. Мараўскія, ракуцкія, сьвятаюрскія гатункі, якія паходзілі з Польшчы, Чэхіі і кавалачку Вугоршчыны, — пазначаў саламяны вянок. Такай — вялікі хваёвы вянок. Моцныя канарскія віны, напоі з Мадэйры і Кіпру — вянок, аздоблены зялёнай тканінай. Магчыма, калі асартымент быў шырокім, маглі вісець і два, і тры вянкі адначасова.

## Ян Сабескі: шампанскае і гарматныя стрэлы пад Венай

Ян Сабескі ў нашай алкагольнай гісторыі, мабыць, герой не менш заслужаны за Баторыя. Таксама прафесійны вайсковец, але гэтым разам з ваколіц Львова: з самага ўтульнага невялічкага замку тых мясцiнаў — Алеська. Яму пашчасціла з жонкай Марысяй, якая была сваячкай французскіх манар-



Ян Сабескі з жонкай і дзецьмі

хаў. Таму на момант чарговай элекцыі караля яна паехала ў Францыю... і вярнулася не толькі з лістом-пратэкцыяй ад самага магутнага манарху свету, а яшчэ з 1 000 000 залатых ліўраў, каб усіх купіць, ды — віном.

Віно, у гэтым выпадку — звычайнае французскае бардо, якое сёння можна набыць у супермаркеце за 20 рублёў, было патрэбнае, каб падпаіць тых, каго не купіш, альбо наліць тым, каго ўжо купілі. Так Яна Сабеская абралі каралём, а ў Рэчы Паспалітай з'явілася новая мода — на французскія віны.

Абралі Сабескага ўсё ж такі недарма, бо ў хуткім часе ён уратаваў Еўропу ад турак у бітве за Вену ў 1683 годзе. Гэта неймаверны трыумф і момант славы для нашага караля, а значыць — шампанскае, якое асацыюецца са стрэлам, выбухам, перамогай. У выніку перамога пад Венай стала і важнай культурна-гастранамічнай перамогай: адтуль да нас патрапілі кава, узятая з разрабаванага абозу султана, круасан у форме паўмесяца, а таксама шампанскае.

Імператар Леапольд, які зайздросціў Сабескаму, забараніў жыхарам Вены голасна вітаць пераможцу, таму гараджане паказвалі сваю ўдзячнасць каралю зялёнымі галінкамі, якімі матлялі на вуліцах нібы сцягамі, а таксама частавалі вяяроў Рэчы Паспалітай мясцовым аўстрыйскім віном. Дарэчы, Вена дагэтуль застаецца адзіным еўрапейскім горадам, дзе прамысловае вырошчванне вінаграду ўпісана ў рысу мегаполіса. Зразумела, што венскае віно вяяры прывезлі на Радзіму...

Наогул, за часамі Сабескага ў нас з'явіўся ўжо цэлы калейдаскоп гатункаў. У дадатак да бардо, шампанскага і аўстрыйскага віна — яшчэ і прадукт з-над Рэйну ды іншых рэгіёнаў Еўропы. Пачаў спраўна працаваць марскі гандаль праз порт у Гданьску. Праблема з якасцю, на жаль, заставалася актуальнай: кожны перапрадавец імкнуўся разбавіць альбо «закансерваваць» віно на свой густ, таму да спажыўца зазвычай даязджаў ужо вельмі сумнеўны прадукт браджэння.

### Аўгуст II Моцны: алхімія і шампанскае з малака

Абодва саксонскія манархі, Аўгуст II Моцны і Аўгуст III зрабілі багата для сваёй радзімы, то бок... для Саксоніі за кошт Рэчы Паспалітай, дзе былі абраныя каралямі. Вядома, што шэдэўры Дрэздэнскай галерэі збольшага купляліся коштам нашых продкаў... Гэта быў час раскошы, рэйнскіх вінаў, калі бытавала прымаўка: «Еш каўбасы за караля Саса». Цікава, што будучы немцамі, Сасы ўсё адно абіралі віно, а не піва: слаўны маркёр быў значна важнейшы за рэгіянальны. Піва для бедных, віно для заможных — такі прынцып.


Баляванне шляхты ў палацы Радзівілаў, мастак А.Арлоўскі


Аўгуст II Моцны

> **Сёняшняе «Савецкае шампанскае» працягвае традыцыі падробак часоў Рэчы Паспалітай**

У дадатак да ўсяго, Аўгуст II цікавіўся алхіміяй. Таму бурбалкі ў шампанскім выклікалі ў яго зусім іншыя асацыяцыі, чым у Сабескага: у шумлівай вадкасці мроіліся ўжо не стрэлы з-пад Вены, але таемныя пошукі філасофскага каменю. Мода на шампанскае дайшла да таго, што бутэлька напою ў Варшаве каштавала 360 грошаў, тым часам як лепшае віно іншага гатунку — 120. Розніца ў тры разы!

Агулам жа топ-ліст вінаў на 1733 год выглядаў так. Першае месца — такай, традыцыйна. Другое — рэйнскае віно. Далей — французскае бардо ды шампанскае. Пасля — Іспанія ды мацаваныя салодкія гатункі з Кіпру. Ну і, урэшце, на апошнім месцы — малдаўскае! Парадаксальна, але самы блізкі і дасяжны прадукт не карыстаўся папулярнасцю. Цікавей было купляць і піць дарагое, далёкае і статуснае: суцэльная Dolce Vita!



Пры Сасах, дарэчы, з'явіліся і першыя масавыя падробкі віна. Гандляры ўцямілі, што спажыўцы ў віне ўсё адно нічога не разумеюць, таму вырашылі разбаўляць і перарабляць ужо не толькі, каб захаваць прадукт, а наўпрост, каб прадукту атрымалася больш! Галоўная ахвяра падробак — шампанскае, бо самае дарагое.

Самы просты варыянт — гэта пусціць бурбалкі ў рэйнскае віно. Была і экзотыка, напрыклад, шампанскае з сыраваткі і абястлушчанага малака (браджэнне ёсць, будуць і бурбалкі). Яшчэ: шампанскае з хлебных сухароў — нейкі варыянт сівушнага квасу. Ну і нарэшце... шампанскае з бярозавага соку — проста шэдэўр! Мясцовая назва для шампанскага — шумлівае — падкрэслівала галоўны момант у напоі: каб шумела, а рэшта не мае значэння.

Цікава, што яшчэ ў «Літоўскай гаспадыні», выдадзенай у XIX стагоддзі, захаваўся рэцэпт шампанскага. Трэба ўсяго нічога: 8 квартаў самага таннага рэйнскага віна, 8 унцыяў тоўчанай слановай косткі, 4 фунты цукрою, ¼ фунту семені сельдэрэю, 1 унцыя поташы... Усё гэта перамяшаць, кіпяціць, дадаць віннага спірту і працэдзіць! Карацей, сёняшняе «Савецкае шампанскае», у пэўным сэнсе, працягвае лепшыя традыцыі падробак часоў Рэчы Паспалітай.

### Пане Каханку: як напаіць караля?..

Напрыканцы варта ўзгадаць Радзівілаў, некаранаваных каралёў дзяржавы, якія былі вядомыя сваімі баляваннямі на ўсю Еўропу. Скажам, Пане Каханку мог даць на прыём 1000 бутэлек шампанскага. Нават сёння гэта касмічная колькасць, а што на тыя часы?.. Страшна ўявіць. Колькасць даражэзнага алкаголю, які выпіваўся ў Рэчы Паспалітай, стала легендай па ўсёй Еўропе: «У Польшчы п'юць шампанскае, нібы сідр», — пісаў сучаснік, сыходзячы з таго, што яблычны сідр у Францыі піў кожны першы, як квас.

Скончыць гісторыю можна было б сумнай алегорыяй альбо гістарычным анекдотам. Апошні кароль, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, калі справы ў дзяржаве пайшлі зусім дрэнна, прыехаў да Пане Каханку па грошы для войска і з парогу звярнуўся да таго па-беларуску: «Пане гаспадару, каж віна даці, каб усё было ў тваёй новай хаце». Такі падыход прыйшоўся да сэрца Радзівілу, і той паіў караля цэлы месяц, але... грошай так і не даў.

Прайшло яшчэ трошкі часу — і Рэч Паспалітая перастала існаваць, растаяўшы, як раншні сон, а віно працягнула свой шлях як вечная азнака статуснасці, прыгажосці ды насалоды жыццём.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №152

Падпісана да друку 18.05.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.